НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 5 (842) 5 лютага 2014

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Штосьці не так

Замест «Жыве Беларусь!» масоўцы на здымках фільма «Авель» прапанавалі крычаць «Что-то не так».
Старонкі 2-3.

**Рэпартаж**

## «Ментаўская дзяржава дастала»

Фанатаў БАТЭ арыштоўваюць за акцыю салідарнасці з Украінай. **Старонка 4.**




**Грамадства**

## Беларускія мільянеры – былыя інжынеры

Чым менш пра цябе ведаюць, тым менш праверак. **Стронка 5.**



**Здарэнні**

## Дзяўчына загінула на пешаходным пераходзе

У калонію адправіцца шматдзетны бацька. **Старонка 7.**



**Спорт**

## Алімпіяда Пуціна

Жаночы біятлон і мужчынскі фрыстайл – галоўныя беларускія спадзевы ў Сочы. **Старонка 9.**



## Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# «Что-то не так» —

**2 мільярды рублёў** выдаткавалі з бюджэту на адказ на фільм «Жыве Беларусь».

У Мінску поўным ходам ідуць здымкі фільма «Авель» — кінапраекта, мэтай якога стала «стварыць кіно, якога ў Беларусі яшчэ не было». Стваральнікі падышлі да падрыхтоўкі здымкаў з размахам. Для кіношнікаў некалькі вечароў перакрывалі праспект Незалежнасці, а сталічныя ўніверсітэты арганізавалі дармовую масоўку — сотні студэнтаў прыйшлі на здымачную пляцоўку, каб пасля атрымаць «бонусы» ад сваіх ВНУ. У БДУ за ўдзел у «Авелі» абяцалі выпісаць прэміі, а ў медуніверы дазволілі ў будучыні прапусціць любую пару ў семестры.

Леташні конкурс Міністэрства культуры на стварэнне фільма выйгралі прадзюсар Сяргея Ждановіч і ягоная «Nonstop MEDIA». Іх праекту «Авель» дастаўся бюджэт памерам 2 мільярды рублёў (больш за $2 мільёны) і статус «нацыянальнага фільма». Гэта значыцца, што яго сцэнар асвятляе «падзеі, якія маюць грамадскую, гістарычную і культурную значнасць», а не менш за 70% здымачнай групы мусяць быць грамадзянамі Беларусі. Да прадзюсараў выставілі патрабаванне — запрасіць у кіно сусветную зорку класа А.

«Авель» — далёка не першы рэзанансны праект «Nonstop MEDIA». Напрыклад, іхняя кароткаметражка «Туфлікі» атрымала летась усе галоўныя прызы на фестывалі Angel Film Awards у Манака.

Стваральнікі кіно не хавалі, што частка падзей фільма адбываецца ў Беларусі, у тым ліку на экран трапяць «балючыя моманты» сучаснай гісторыі — Плошча-2010 і тэракт у мінскім метро. Беларускія інтэрнаўты выказалі меркаванне, што стужка мусіць стаць адказам на фільм «Жыве Беларусь» Кшыштафа Лукашэвіча і паказаць падзеі Плошчы з прапагандысцкіх пазіцый.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Авель**, паводле біблейскага падання, малодшы сын Адама і Евы. Яго ад зайздрасці забіў родны брат **Каін** за тое, што Бог прыняў дары Авеля, а дары Каіна адхіліў. У юдзейскай і хрысціянскай традыцыях выступае як вобраз лагоднай і нявіннай ахвяры чалавечай жорсткасці.

### «А мы можам і ў атаку»

«...Нічога палітычнага крычаць не трэба, дзеянне адбываецца ў невядомай краіне, — памочнік рэжысёра Віталь інструктаваў масоўку, якая сабралася ў галоўным корпусе БДУ. — Вы ўлічыце, што на здымках будзе кактэйль Молатава, не набліжайцеся да «міліцыі», бо калі хто-небудзь атрымае дубінкай, праблем не абяромся».

Стваральнікі кіно перастрахаваліся: раптам імітацыя Плошчы перарасце ў сапраўдны пратэст? Таму спачатку забаранілі сцягі, а пасля і лозунгі. Замест «Жыве Беларусь» можна было крычаць «Гэта не так!» і «Мы супраць». Першы лозунг у інтэрнэт трапіў у трохі змененым выглядзе, але маланкава набыў папулярнасць: «Что-то не так» выдатна апісала рэчаіснасць.

Як пакажа практыка, у выніку масоўка крычала нешта сярэдняе паміж «Уррраaa!», як на святочным салюце, і разрозненымі выкрыкамі «Дынама!».

Масоўка — гэта студэнты, некаторыя дзяўчаты прыйшлі на абцасах, сярод натоўпу бачныя і прафесійныя масоўшчыкі — людзі ў веку, якія маюць хобі здымацца ў кіно, не зважаючы на тое, што масоўка на «Авелі» ў першыя дні не аплачвалася. Былі бачныя і ціхары, якія на ўсялякі выпадак не пускалі журналістаў да Дома ўрада.

«У атаку не ісці», — жартам суцішае масоўку памочнік рэжысёра. «А мы можам і ў атаку», — жартуюць масоўшчыкі. «Не трэба, гэта не міліцыя, а акцёры», — кажа кіношнік.

Не абышлося і без затрыманняў. Да масоўкі далучыўся мінчук, які некалькі разоў выгукнуў «Жыве Беларусь!». Яго затрымалі, але неўзабаве адпусцілі.

Быў затрыманы і відэааператар агенцтва БелаПАН Васіль Сямашка, які браў каментар у двух маладых людзей, якія прадставіліся арганізатарамі сацапытання. Тыя таксама затрыманыя. Пасля таго, як Сямашка паабяцаў выдаліць відэазапіс, усіх адпусцілі.

За чатыры дні ўсе беларускія эпізоды «Авеля» адздымалі. Цяпер здымачную групу чакае праца за мяжой.

## Гвалт з нацыянальнай тапаніміі — небяскрыўдная забава

Ужо ў трэці раз дзяржаўныя мужы робяць замах на нашу тапанімію — нацыянальную гісторыка-культурную спадчыну беларускага народа. А спадчына ж гэтая незвычайная, гукавая, мова роднай зямлі, у ёй увасоблена шматвекавая духоўная практыка, увесь жыццёвы вопыт народа-стваральніка. Вось такая спадчына, у якой жыве Дух і Розум, Гонар і Слава нашых крэўных продкаў, перакрэсліваецца, асуджаецца на небыццё. Балюча і горка быць сведкай падобнай расправы.
Апошнім разам ініцыятыва скасаваць нацыянальны скарб зыходзіць ад Савета міністраў Беларусі.
Няўжо здзейсніць грахоўны акт гатовыя і тыя ўладныя асобы, якія ставілі свае подпісы пад наступнай фармулёўкай «Инструкции по передаче на русский язык наименований географических объектов Республики Беларусь», зацверджанай у 2005-м Камітэтам па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі пры Саўміне: наименования географических объектов Республики Беларусь передаются на русский язык с национальных форм наименований, которые установлены на основании нормативных правовых актов? Тут абсалютны прыярытэт нацыянальных формаў прапісаны цалкам адназначна.
Але хто б ні стаяў за намерамі ўнесці змены ў Закон аб геаграфічных найменнях, ён відавочна не ўсведамляе элементарнай ісціны — чые назвы паселішчаў, таго і зямля. Ці задумваліся нашыя міністры, чаму так паспешліва пераафармляюцца беларускія тапонімы на іншамоўны лад на тых тэрыторыях, якія дасталіся ад нас палякам, расіянам, украінцам, літоўцам? Давайце кінем позірк на Беласточчыну, Віленшчыну. Ці знойдзем мы там на сённяшні дзень хоць бы адну назву, якая б сведчыла пра сваё беларускае паходжанне? Гісторыя забываецца, а першапачатковая форма тапоніма траціць сваю ідэнтычнасць і становіцца сталай тэрытарыяльнай адзнакай іншага этнасу. Мой знаёмы маскоўскі прафесар, зусім лаяльны да беларусаў і Беларусі, вельмі здзівіўся, калі аднойчы пачуў, што літоўскі Вільнюс — гэта былы беларускі горад Вільня.
У савецкую эпоху Беларусь была ў складзе Савецкага Саюза, і тады намі распараджаліся, як хацелі. У выніку амаль палова тапонімаў не прачыталася, згубіла сваю арыгінальную форму, многія назвы былі скажоныя да непазнавальнасці, не мелі адзінага напісання, тапанімію літаральна запаланілі арфаграфічныя, граматычныя і фактычныя памылкі.
А колькі страт і блытаніны нанесла бяздумнае перайменаванне нашых спрадвечных назваў! Вось гэтае смецце на працягу больш за 10 гадоў давялося разграбаць менавіта тым вучоным, якіх ідэолаг Ігар Карпенка абазваў бязмозглымі. Зараз нашая дзяржава прызнаецца незалежнай. То навошта ж яе абязлічваць, зноў вяртацца ў той страшэнны хаос?!
Выкараненне нацыянальнай тапаніміі — небяскрыўдная забава, яна мае яскравую палітычную афарбоўку, ад яе патыхае здрадай нацыянальных інтарэсаў. Хіба мы ўжо саспелі да таго, каб аддаць апошні кавалак зямлі пад чужы пратэктарат? Ні адна нацыя не ў праве пагарджаць сваімі духоўнымі каштоўнасцямі, калі яна жадае заставацца нацыяй.

**Доктар філалагічных навук, прафесар Валянціна Лемцюгова**

### Апытанне на nn.by

**А Вы пагадзіліся б удзельнічаць у масоўцы фільма «Авель»?**

| | | |
|---|---|---|
| чаму б не | 174 | 6% |
| ні за што | 1469 | 52% |
| за вялікія грошы так | 150 | 5% |
| я б пагадзіўся ўдзельнічаць у здымках фільма «Жыве Беларусь» | 1036 | 37% |

Прагаласавала 2 829

### Самае чытанае 29 студзеня — 4 лютага

1 Удзельнікам масоўкі фільма «Авель» забаранілі крычаць «Жыве Беларусь!», дазволілі «Что-то не так!»
2 «Асцярожна, расійскі журналіст. Проста ігнаруйце!»
3 Гродзенскі КДБ раскрыў змову загадчыц дзіцячых садоў
4 У Слоніме міліцыя спыніла масавае катанне з горкі, тры чалавекі затрыманыя
5 Лідара Аўтамайдану адпусцілі з парэзаным вухам
6 Бізнэсмен аддае шэсць офісаў і канферэнц-залу пад беларускія праекты
7 Міхаіла Жызнеўскага пахавалі ў вёсцы Сцяг Працы з васьмігадзіннай затрымкай
8 Расія зноў абвесціла Украіне татальную гандлёвую вайну
9 У Гомелі студэнт упершыню абараніў дыплом інжынера па-беларуску
10 Цуд прыроды. «Пагоня» на марозным акне

# як здымалі «Авель»


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Что-то не так»**

Лозунг «Что-то не так», альбо «Это не так», набыў шалёную папулярнасць у інтэрнэце: блогеры ўжо паспелі перайменаваць «Авеля» ў «Што-та не так». Партал Tut.by правёў апытанку «У Беларусі ўсё добра альбо штосьці не так?». За «штосьці не так» прагаласавала болей за 89% апытаных.

Успрымаючы лозунг «Штосьці не так» як абразу мітынгоўцаў 2010 года, інтэрнаўты стварылі шэраг плакатаў на тэму «Штосьці не так», на якіх Аляксандр Лукашэнка ўручае ордэн Сяргею Міхалку, а мітынгоўцы стаяць з плакатамі «Мы супраць вось гэтага вось усяго» і «Прэч гэтага, як там яго».

## Без палітыкі не атрымалася

Першыя крокі кіношнікаў выклікалі абурэнне інтэрнаўтаў: падчас здымкаў імітацыі Плошчы у руках у дэманстрантаў з'явілiся «кактэйлі Молатава». Нічога гэтага ў сапраўднасці не было.

Прадзюсар Сяргей Ждановіч даводзіць, што падзеі Плошчы выкарыстоўваюцца ў фільме выключна як фон для гісторыі. «Мы не даём палітычнай ацэнкі гэтым падзеям», — казаў ён.

Прадзюсар настойвае, што «Авель» — не палітычны фільм. Менавіта таму было вырашана не выкарыстоўваць бел-чырвона-белыя сцягі. «Я мог зняць гэта ў Расіі, Украіне, у Малдове, —кажа прадзюсар. — Навошта сцягі? Мы не дакументалісты і не палітыкі. Па хронаметражы сцэна Плошчы будзе займаць у фільме хвілін пяць. Мы здымаем камерцыйнае кіно». «Ніхто не забараняе бел-чырвона-белы сцяг, гэта наша гісторыя. Але не трэба рабіць бел-чырвона-белы сцяг ідалам нейкай апазіцыі, — працягнуў ён. — Тое самае, як сучасны сцяг — пад гэтым сцягам нашы бацькі і дзяды гінулі на вайне, але гэта наша гісторыя». Як вядома, чырвона-зялёны сцяг быў прыдуманы ў пачатку 1950-х, праз некалькі гадоў пасля сканчэння вайны.

Па словах сцэнарыста фільма «Жыве Беларусь» Франака Вячоркі, Ждановіч сустракаўся з ім і прасіў парады, як пазбавіць здымкі фільма палітычнага кантэксту. На гэта Вячорка параіў яму ў прысутнасці журналістаў сустрэцца з жонкай асуджанага праваабаронцы Алеся Бяляцкага і маці Уладзіслава Кавалёва, расстралянага па справе тэракта ў мінскім метро. Прапанова засталася без рэакцыі.


Сяргей Ждановіч.

**Рэжысёр**


WILLIAMDEVITAL.COM/

Спачатку сярод прэтэндэнтаў называлі Аляксандра Ката, які здымаў «Брэсцкую крэпасць». **Уільяма Дэвіталя** ж паклікалі пастаноўшчыкам каскадзёрскіх трукаў. Але ў выніку яму даверылі працу рэжысёра. Дэвіталь мае львоўскае паходжанне, ён вядомы савецкаму гледачу па фільмах «Тры мушкецёры» і «Чалавек з бульвара Капуцынаў», у якіх ставіў трукі. На пачатку 1990-х Віталь Васількоў (сапраўднае імя Дэвіталя) з'ехаў у ЗША, дзе працаваў на шэрагу стужак, самыя вядомыя з якіх «Блэйд-2» і «Індыяна Джонс і Каралеўства крыштальнага чэрапа». Але не як рэжысёр.

**Галівудская зорка**


KINOPOISK.RU

Імёны галівудскіх акцёраў, якіх паклікалі на праект, — таямніца. У прыватнасці, з'явілася інфармацыя пра ўдзел у фільме Мілы Евавіч. Дакладна вядома, што ў фільме будзе здымацца **Эрык Робертс**, брат Джуліі Робертс. Самыя вядомыя фільмы з ягоным удзелам — «Цёмны рыцар» і «Нястрымныя». Робертс — акцёр другога плана. На ягоным рахунку болей за сотню фільмаў рознага ўзроўню — сёлета на экраны выйдзе трылер «Чалавек-мнаганожка-3» з ягоным удзелам. Аднак здымачная група сцвярджае, што ў фільме будзе здымацца яшчэ адна галівудская зорка.

**Галоўныя ролі**



У ролі старэйшага брата здымаецца **Руслан Чарнецкі** — акцёр з майстэрні Зоі Белахвосцік, вядомы па фільме «На ростані», па тэатральных пастаноўках. Ён працуе ў мінскім тэатры імя Горкага і апошнім часам выконвае галоўныя ролі ў новых пастаноўках.



**Яўген Шмарлоўскі** будзе граць малодшага брата. Акцёр здымаецца ў кіно амаль 30 гадоў, браў удзел і ў некаторых праектах Сяргея Ждановіча. Але асноўная дзейнасць Шмарлоўскага — цыркавая. Ён паходзіць з цыркавой дынастыі, працуе клоўнам. Цяпер жыве ў Германіі.

**Падрыхтаваў Юрась Ускоў**

## Як служба бяспекі прэзідэнта ратуе свет

Сцэнар «Авеля» — камерцыйная таямніца. Было вядома толькі тое, што гэта біблейскі сюжэт пра Каіна і Авеля, перароблены на новы лад, — гісторыя двух братоў, якая пачынаецца яшчэ ў 1950-я гады.

Аднак сцэнар трапіў у інтэрнэт. Па словах яго стваральніка, расейца Рамана Макушава, які цяпер жыве ў Лос-Анджэлесе, гэта канчатковы чарнавік, які ён перадаў прадзюсару. «Звычайна рэжысёр уносіць нейкія свае карэктывы, нешта таксама змяняецца ў ходзе акцёрскай імправізацыі падчас здымак», — тлумачыць ён.

Сюжэт нагадвае дэтэктывы, што базуюцца на тэорыях змовы.

Сакрэтная арганізацыя простых нашчадкаў біблейскага Авеля сабрала інфармацыю аб генетычным кодзе кожнага жыхара Зямлі і вызначае верагоднасць забойстваў з дапамогай камп'ютарнай праграмы, якая дэшыфруе код Каіна.

Каінавы знак, таямніцу якога захоўваюць авеліты, — гэта ланцужок генетычнага кода, які адказвае за верагоднасць учынення чалавекам забойства...

Журналістка Сара, адна з місіянерак арганізацыі, ездзіць па ўсім свеце і спрабуе прадухіліць рэзанансныя забойствы «з вялікай колькасцю ахвяр і далёкасяжнымі наступствамі». Праўда, яе праца не асабліва эфектыўная, і пасля няўдалай аперацыі, якую зрываюць таемныя нядобразычліўцы, у Тунісе ўспыхвае рэвалюцыя.

Нашмат лепш журналісты атрымліваецца выкрываць амерыканскую замежную палітыку, а яе кніжка «Штосьці не так з амерыканскай марай?» становіцца бэстсэлерам.

Пасля Туніса Сара атрымлівае новае заданне ў Беларусі, у якой толькі што прайшлі прэзідэнцкія выбары і адбываюцца масавыя пратэсты. Камп'ютарная праграма авелітаў вылічыла імавернасць двух злачынстваў, і місіянеры павінны прадухіліць іх.

Пад выглядам замежных інвестараў місіянеры прыбываюць на БелАЗ, дзе ледзь не становяцца ахвярамі замаху. Грузавік з дыстанцыйным кіраваннем падчас прэзентацыі інвестарам губляе кіраванне і спрабуе іх раздушыць. Іх цудам ратуе маёр службы бяспекі прэзідэнта Ягор Анісімаў, які апынуўся ў гэты час на заводзе, каб падрыхтаваць візіт кіраўніка дзяржавы.

Як высвятляецца, місіянераў цікавіць ягоны брат Вадзім. Ён працуе на БелАЗе праграмістам. Менавіта Вадзім, паводле прагнозу авелітаў, з імавернасцю 82,3%, здзейсніць забойства бліжэйшым часам. Рэч у тым, што Вадзім і Ягор не падзялілі дзяўчыну (вядомую тэлевізійную журналістку Веру), і Вадзім не можа дараваць свайму брату.

Ягора Анісімава прыстаўляюць да амерыканскай журналісткі ў якасці аховы. Ён павінен суправаджаць амерыканцаў на прэс-канферэнцыю і на хакей.

Як бы між іншым, журналістка падчас прэс-канферэнцыі кіраўніцтва БелАЗа ў Нацыянальнай бібліятэцы тлумачыць, што змагацца з дыктатурай не варта і трэба шукаць іншы шлях — шлях эвалюцыі.

Памочнік Сары, Крыс Уэйн, у гэты ж час сочыць за іншым патэнцыйным забойцам — Кірылам, які плануе падарваць самаробную бомбу ў месцы масавага збору людзей. Яму не ўдаецца пранесці бомбу на хакейны матч, на які, дарэчы, збіралася і амерыканская журналістка, і ён наважваецца ўчыніць тэракт у метро.

Служба бяспекі прэзідэнта памылкова мяркуе, што Крыс Уэйн спрабуе забіць Сару, і абвяшчае на яго паляванне. Ягор Анісімаў на матацыкле пераследуе Крыса Уэйна, аднак у самы апошні момант хтосьці паспявае падарваць самога Уэйна (знявечаны, але жывы). Ягор працягвае пагоню за падазроным аўтамабілем і трапляе на палігон выпрабаванняў БелАЗаў. 400-тонны самазвал на дыстанцыйным кіраванні атакуе маёра, але ў Ягора атрымліваецца нейтралізаваць апаратара-тэрарыста. Ім быў стажор завода з Туніса, агент здрадніка ў шэрагах авелітаў.

Сара і яе партнёры вымушаныя расказаць Ягору Анісімаву таямніцу, і цяпер ужо разам яны ідуць па слядах магчымых забойцаў. Яны паспяваюць прыехаць на станцыю метро за імгненне да выбуху, а адзін з місіянераў гіне. Кіраўніцтва Ягора думае, што ён і амерыканцы арганізавалі выбух у метро. Цяпер ужо ў вышук абвешчаны сам маёр СБ.

Сара і Ягор Анісімаў знаходзяць у старым вясковым доме сям'і Анісімава звязаную дзяўчыну (тэлевізійную журналістку), якую брат Ягора Вадзім узяў у закладнікі, туды ж прыбывае група захопу і брат Ягора. Вадзім адпраўляецца на перамовы, у дом ён прынёс выбухоўку і спрабуе ўсіх падарваць, аднак Ягор ратуе жыццё брату.

Заканчваецца фільм на выспе Утэя ў Нарвегіі. Сара вылічвае здрадніка ў шэрагах авелітаў. Ім быў яе куратар Дэвід Паркер. Ягор, Сара, Вера і Крыс Уэйн спрабуюць нейтралізаваць здрадніка, але тут з'яўляецца невядомы Бландзін (падобны да тэрарыста Андрэса Брэйвіка) з карабінам і ладзіць пабоішча. Паркер паспявае збегчы з выспы на маторнай лодцы, але Бландзін расстрэльвае лодку, і Паркер гіне падчас выбуху.

«Франкенштэйн забіў свайго гаспадара», —робіць выснову амерыканская журналістка Сара.

# «Ментаўская дзяржава дастала»




Тая самая акцыя ў падтрымку Украіны.

**Фанатаў БАТЭ арыштоўваюць за акцыю салідарнасці з Украінай.**

26 студзеня 23 хлопцы ў Барысаве зняліся з плакатамі «Украіна, мы з табой», «Слава героям». У руках яны таксама трымалі бел-чырвона-белы сцяг. Назаўтра фотаздымак у падтрымку кіеўскага Майдану абляцеў інтэрнэт. Навіна ў сеціве жыве максімум некалькі дзён, паглядзелі людзі ды забыліся. Аднак гэтай справе так хутка знікнуць з першых палос СМІ не далі. Ужо два хлопцы адбылі адміністратыўны арышт за сваю салідарнасць з Украінай. Астатнія — у вышуку.

### «Хацелі разам прыйсці ў РАУС»

Саша — непасрэдны ўдзельнік той акцыі. У яго кватэры на сценах сапраўдны «іканастас» фаната. Дзясяткі шалікаў БАТЭ, польскага «Пяста» (сяброўскі клуб барысаўскай каманды), а таксама некаторых іншых «жоўта-сініх» клубаў, вымпелы, значкі.

«У суботу-нядзелю ў барысаўскім Фізкультурна-аздараўленчым цэнтры (ФАЦ) быў валейбол. Там прысутнічалі некаторыя хлопцы. Ёсць запісы з камер відэаназірання, але няма ніводнага запісу, што з плакатамі стаяць менавіта гэтыя людзі», — кажа Саша.

Ужо ў аўторак міліцыя пачала пошук удзельнікаў акцыі. 21-гадовы Яўген першы атрымаў званок з гарадскога РАУС. Яго паклікалі на размову ў міліцыю. Не чакаючы нічога кепскага, хлопец пайшоў у пастарунак, перад гэтым папярэдзіў сястру. Начаваць дамоў ён не вярнуўся. Пакінулі ў ІЧУ. Назаўтра суддзя Лідзія Малчанава (тая самая, што судзіла свайго цёзку палітвязня Аляксандра Малчанава) асудзіла Жэню на пяць сутак арышту.

«Другога хлопца арыштавалі так: пазванілі дадому, каб прыйшоў. Ён папрасіў даслаць позву. Прыехалі і замест позвы проста забралі з сабой, — расказвае Саша. — Дапыталі ягоную дзяўчыну, яна сказала, што была на валейболе з ім, але болей нічога не бачыла. У паказаннях жа запісалі, што пацвярджае ўдзел у акцыі. Праўда, яна подпіс так і не паставіла. Ёй яшчэ паказвалі фотаздымак, дзе стрэлачкамі і кружочкамі былі падпісаныя іншыя ўдзельнікі. Кажа, што было апазнана чалавек восем».

І фанаты БАТЭ, і намеснік начальніка Барысаўскага РАУС Уладзімір Волкаў адмовіліся фатаграфавацца.

Гэта ўжо не першы выпадак, калі хлопцы сутыкаюцца з супрацоўнікамі праваахоўных органаў. «Перад пачаткам сезона заўсёды былі прафілактычныя гутаркі, каб не хуліганілі. А яшчэ нядаўна на міні-футболе вывешвалі «Пагоню», дык мелі размову з кадэбістамі. Нікому не дакажаш, што гэта гісторыка-культурная каштоўнасць, старадаўні герб». Але вось на суткі за банеры пакуль што нікога не саджалі.

«У нас нават была думка прыйсці ўсім разам у РАУС ды сказаць: «Саджайце на пяць сутак, можна без суда». Але потым вырашылі, пакуль што халаднавата. Яшчэ пабегаем», — смяецца Саша.

Напрыканцы пытаюся, чаму ж хлопцы вырашылі падтрымаць Майдан. «Ментаўская дзяржава дастала», — сходу адказвае Саша. А потым дадае, што выпадак з казаком Міхаілам Гаўрылюком, якога беркутаўцы трымалі голым на марозе, стаў апошняй кропляй.

### «Гэта не фанаты»

У барысаўскім РАУСе нас згаджаецца прыняць намеснік начальніка Уладзімір Анатольевіч Волкаў. «Хто вам сказаў, што гэта фанаты? Ніякія яны не фанаты», — яшчэ ў фае кажа ён нам. Праходзім у кабінет. «Хто з вас старэйшы?» — пытаецца Волкаў. Так і карціць даць: «па званні». Просіць Сяргея Гудзіліна выйсці на калідор, застаемся адзін на адзін. Кажу: «Справа атрымала вялікі розгалас, думаю, вы самі бачылі ў інтэрнэце». «Мне няма калі інтэрнэт чытаць. Дадому прыходжу пасля 22-х, не да інтэрнэту», — кажа начальнік.

«Група маладых людзей сфатаграфалася на ганку ФАЦ. З іх словаў вынікае, што яны зрабілі гэта ў падтрымку падзей на Майдане. Двое грамадзян былі ўстаноўленыя і прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці. Мы звярталіся ў гарвыканкам, даведваліся, ці быў атрыманы дазвол на пікетаванне. Адказалі, што ніхто не звяртаўся з такой заяўкай», — пачынае аповед міліцыянер.

Ён паказвае падрыхтаваную загадзя раздрукоўку, дзе тлумачыцца, што такое пікет. Чытаю вызначэнне: «Пікетаванне — гэта публічнае выказванне грамадзянінам ці групай грамадзян грамадска-палітычных, групавых, асабістых і іншых інтарэсаў або пратэсту (без шэсця), у тым ліку шляхам галадоўкі, па якіх-небудзь праблемах з выкарыстаннем або без выкарыстання плакатаў, транспарантаў і іншых сродкаў».

Можа, яны гэткім чынам са зборнай Украіны па футболе выказвалі салідарнасць? У чым палітыка лозунга «Украіна, мы з табой»? «Я не кажу пра палітыку, яны выказвалі свае інтарэсы».

І ў чым заключаецца інтарэс? «Я не ведаю, у чым інтарэс. З паказанняў затрыманых вынікае, што яны салідарызаваліся з Майданам», — паўтарае, як мантру, міліцыянт.

А як былі апазнаныя затрыманыя? «Ёсць адметнасці, па якіх знайшлі». Што за яны — удакладняць не стаў.

Уладзімір Волкаў прызнаецца, што працягваюцца пошукі астатніх удзельнікаў.

Затрыманыя, хоць і прызналі сваю віну, але сказалі, што не памятаюць ці не ведаюць людзей, з якімі стаялі з плакатамі.

«Працуем, высвятляем асобы. Справы на ўсіх 23-х удзельнікаў, як пішуць у інтэрнэце, не заводзілі, бо мы нават не ведаем гэтых людзей, то як можам справу пачаць? Ніхто не дзейнічае так, што на вуліцы выхопліваюць усіх фанатаў БАТЭ. Ды і не фанаты яны. Адзін казаў, што раней хадзіў на 5-ы сектар, але цяпер перастаў. Кажуць, што цікавяцца спортам, ходзяць у трэнажоркі, але да фанатаў сябе не адносяць. На фота, можа, чалавек у пяці была на адзенні нейкая сімволіка БАТЭ».

«Калі б фотаздымак не трапіў у інтэрнэт, то справы не было б?»

«Не было б», — адказвае Волкаў.

«Ці праўда, што ўказанне завесці справу Вам прыйшло з Мінска?» — «Прычым тут Мінск? Мы самі зацікаўленыя ў захаванні добрага імя міліцыі».

### «Нас нават на суд не пусцілі»

У вечар панядзелка першы з затрыманых выходзіў на волю. Каля пастарунка сустракаемся з сястрой Яўгена Ленай. Высокая светлавалосая дзяўчына адразу першай задае пытанне: «А вам не страшна асвятляць такія тэмы?»

Гэта не загартаваная адседкамі палітычная апазіцыя, людзі ўпершыню ў жыцці сутыкаюцца з такім, таму шакаваныя.

«Нас нават у суд не пусцілі. Міліцыянт сказаў, што не палажана, — расказвае Лена. — А потым не прынялі перадачу. Ні адзенне, ні ежу, ні гігіенічныя сродкі. Нічога».

Жэня працуе рабочым у гарадскіх электрасетках, гэта метраў за дзвесце ад ІЧУ. Пытаюся, ці не могуць яго звольніць за суткі. «Працаваць і так няма каму», — кажа дзяўчына.

Гэтымі днямі Лена актыўна маніторыць незалежныя сайты. «Непрыемна чытаць некаторых каментатараў, што першы здаў астатніх. Малы такі чалавек сумленны і справядлівы, што лепш адседзіць лішнія суткі, чым некага здасць».

Лена ні словам, ні паўсловам не асуджае брата.

«Нам і міліцыянт, і суддзя сказалі: «Мы бачым, што добры хлопчык». Дык чаго тады суткі даяце тады?

Яго прывезлі на суд разам з пяццю іншымі. Там жанчына-алкагалічка, нейкія дэбашыры. Дык вось усіх пасля суда адпускалі, давалі штрафы. Мы былі перакананыя, што Жэню таксама адпусцяць».

Хлопца выпусцілі з ізалятара часовага ўтрымання бліжэй да дзевятнаццатай гадзіны. На выгляд хлопец нечым нагадвае актывіста Паўла Вінаградава. Дужы, у турме бародка адрасла. «Нармальна сядзелася. Толькі халодна было», — кажа Жэня.

«Я сапраўды прызнаўся, што быў там, трымаў плакат. Не ўмею хлусіць. Настойвалі, каб назваў імёны астатніх удзельнікаў, у такім выпадку абяцалі адразу адпусціць. Хто ж ім паверыць».

Кажа, што дапытваў яго асабіста намеснік начальніка РАУС Волкаў, а не нейкі шараговы супрацоўнік. «Ён шчыра сказаў, што справу загадалі адкрыць з Мінска». Бацька ківае: «Мне тое самае казалі».

Ужо ў гэты вечар Яўген збіраўся сустрэцца з сябрамі, каб падзяліцца досведам «сутак». Магчыма, гэта яшчэ будзе чакаць некаторых з іх.

**Зміцер Панкавец, Барысаў**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Высокі будынак — барысаўскі РАУС. Меншы, за калючым дротам — мясцовы ІЧУ. Тут адбываюць пакаранне затрыманыя фанаты.

**Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь**

Артыкул 33. Кожнаму гарантуецца свабода поглядаў, перакананняў і іх свабоднае выказванне.

Артыкул 35. Свабода сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання, якія не парушаюць правапарадак і правы іншых грамадзян Рэспублікі Беларусь, гарантуецца дзяржавай.




ЗМІЦЕР ПАНКАВЕЦ

У Барысаве прысутнасць фанатаў адчуваецца паўсюль.

# Беларускія мільянеры — былыя інжынеры і аспіранты

Айчынныя кампаніі **заваёўваюць свет**, але не прызнаюцца ў гэтым.

У чым феномен беларускага прыватнага бізнэсу? Адказ на гэтае пытанне даў эканаміст Павел Данэйка ў сваёй лекцыі, арганізаванай «Лятучым універсітэтам» і «ЕўраБеларуссю». Даследаванне, вынікі якога ён прадстаўляў, прысвечана «схаваным чэмпіёнам» — кампаніям, якія сталі лідарамі на сусветным ці еўрапейскім рынках, але застаюцца невядомымі на радзіме.



**Павел Данэйка**

Нарадзіўся ў 1961 у Мінску. Скончыў гістарычны факультэт БДУ па спецыяльнасці «эканоміка». Працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце эканомікі НАН Беларусі. У 1994 стаў адным з заснавальнікаў Інстытута прыватызацыі і менеджменту. У 1995—1996 — дэпутат Вярхоўнага Савета, сябар камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах. У 2007—2008 — рэктар Маскоўскай бізнэс-школы. З 2008 — дырэктар Беларускага эканамічнага даследча-адукацыйнага цэнтра, з 2011 — дырэктар Бізнэс-школы ІПМ.

Што аб'ядноўвае гэтыя 32 кампаніі? Іх заснавальнікі стварылі свой бізнэс з нуля, арыентуючыся на продаж тавару за мяжу, а таксама ствараюць прадукцыю не для спажыўца, а для іншага бізнэсу. Усіх «схаваных чэмпіёнаў» аб'ядноўвае абсалютная сціпласць. «Толькі адна кампанія дазволіла назваць сябе, але пры ўмове, што артыкул пра яе будзе па-англійску, — тлумачыць Павел Данэйка. — Астатнія прасілі не згадваць сябе».

Пра гэты бізнэс мала ведаюць і грамадства, і ўлада, і статыстыка. Ёсць шэраг прычын, чаму так склалася.

### Пра нацыянальны характар

«Беларускі бізнэс адрозніваецца па тыпажы ад украінскага і расійскага. Хто такі расійскі паспяховы бізнэсмен? Ходаркоўскі і Абрамовіч паўдзельнічалі ў прыватызацыі, але не стварылі інавацыйны прадукт і не прыдумалі новую бізнэс-мадэль. Гэтыя людзі зарабляюць грошы, а не служаць нейкай місіі, як Стыў Джобс з Apple ці Біл Гейтс з Microsoft.

А беларусы жывуць сваёй працай. Яны захопленыя ідэямі і пра свой прадукт могуць расказваць гадзінамі. Мэта ў іх адна — стаць лідарамі. І яны перакананыя, што могуць быць найлепшымі ў свеце.

Расійскія мільярдэры, зарабіўшы грошы, пачынаюць распіхваць іх у розныя месцы — купляюць рэстараны, футбольныя каманды... Але кіраваць такім бізнэсам не ўмеюць, таму кампаніі банкрутуюць.

Беларусы ж надзвычай сфакусаваныя. Яны не ствараюць паралельны бізнэс і ўкладваюць грошы ў сваю асноўную справу. Не шкадуюць грошы на даследаванні і заробкі інжынерам і канструктарам, ды і ў цэлым на павышэнне кваліфікацыі персаналу. І робяць дзясяткі вынаходніцтваў. Напрыклад, кампанія па выпуску коркаў для гарэлкі мае 18 патэнтаў на розныя тыпы прадукту!»

### Пра асаблівасці стварэння

«Парадаксальна, але адсутнасць рэформаў у краіне і агрэсія ўладаў у адносінах да бізнэсу прывялі да стварэння канкурэнтаздольнага і эфектыўнага прыватнага сектару. Адсутнасць прыватызацыі не дазволіла найбольш эфектыўным беларусам зарабляць іншым шляхам, акрамя як прадпрымальніцкай дзейнасцю. Чалавек лянівы — калі можна зарабляць шмат грошай з мінімальнымі выдаткамі, ніхто не будзе рабіць больш складаныя рэчы».

### Пра прыбытковыя сектары

«Да поспеху прыводзіла вытворчасць тавараў, якіх не было ў СССР, напрыклад, жалюзі ці разнастайнай упакоўкі. Спачатку прадпрымальнікі пастаўлялі гэтую прадукцыю на постсацыялістычныя рынкі, а пасля самі арганізавалі вытворчасць. Выдаткі адразу ўдавалася скараціць на 15—30%, і расійскамоўны рынак быў імгненна захоплены.

Людзі, якія працавалі на машынабудаўнічых заводах, прыдумлялі ўнікальныя тэхнічныя ідэі для вузкіх рынкаў, на якіх не было буйных гульцоў. Яны захоплівалі нішу і паспяхова яе ўтрымлівалі.

Яшчэ адна група стваральнікаў — былыя аспіранты, навуковыя супрацоўнікі ваенна-прамысловага комплексу. Калі ў 1990-я лабараторыі перасталі прыносіць грошы, яны сыходзілі з напрацоўкамі. Першыя продажы рабілі ў Беларусі, а пасля пераключаліся на Захад. На расійскамоўным рынку яны атрымліваюць толькі 5—10% даходаў і ад унутранага рынку з кожным годам залежаць усё менш і менш.

А вось наменклатуры ці «прафесійных» камсамольцаў сярод гэтых прадпрымальнікаў няма. Тыя мелі арганізатарскія здольнасці, але ідэй па стварэнні прадуктаў у іх не было».

### Пра сціпласць

«Прадпрымальнікаў доўга «вучылі» сціпласці. Чым менш пра цябе ведаюць, тым менш падатковых праверак.

Але ў сціпласці ёсць і бізнэс-інтарэс. Прадпрымальнікі не хочуць, каб патэнцыйныя канкурэнты ведалі пра іх нішу і мелі спакусу атакаваць рынак. Гэтаксама «схаваныя чэмпіёны» паводзяць сябе па ўсім свеце. У Германіі і Скандынавіі вялізная колькасць сусветных лідараў у вузкіх нішах. І яны робяць усё магчымае, каб прэса пра іх не пісала.

**Беларусы ў бізнэсе —** надзвычай сфакусаваныя. І робяць дзясяткі вынаходніцтваў. Напрыклад, кампанія па выпуску коркаў для гарэлкі мае 18 патэнтаў на розныя тыпы прадукту!

Калі прадаваць дзверы з брэндам «Зроблена ў Беларусі», гэта павышае цану на расійскім і ўкраінскім рынках. Але прадаць нешта беларускае амерыканскаму паліцыянту складана. Цана на перамовах адразу зніжаецца: «Вы з жабрацкай краіны, вам хопіць грошай». Таму вытворцы маскіруюцца».

### Пра перспектыву

«Ва ўсіх «схаваных чэмпіёнаў» няўстойлівая эканамічная сітуацыя ў Беларусі стымулявала арыентацыю на замежжа. Поспех на замежным рынку прыносіў ім большую ўстойлівасць.

Што ў выніку мае ад гэтых бізнэсменаў Беларусь? Як мінімум, рост ВУП і дзясяткі тысяч высокааплатных працоўных месцаў. Але важна, што гэта людзі будучыні. Яны дораць надзею, што Беларусь зможа выкарыстаць іх вопыт і бачанне сітуацыі, каб сфарміраваць больш устойлівую будучыню для ўсёй краіны».

**Ягор Марціновіч**

---

**Прыйшоў сігнал**

# Выдаткі мадэрнізацыі

На «Рэчыцадрэве» стары цэх проста **сунулі ў катлаван** на беразе Дняпра.

Калі Аляксандр Лукашэнка наведаў «Барысаўдрэў», паляцелі галовы. А праз дзён дваццаць з аналагічнай праверкай на такое самае прадпрыемства, толькі на поўдні Беларусі, у Рэчыцы, завітаў прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч.

Як паведамілі «НН» з Рэчыцы, перад яго прыездам для «навядзення парадку» на дрэваапрацоўчае аб'яднанне сагналі работнікаў практычна ўсіх рэчыцкіх прадпрыемстваў і арганізацый — ад інжынераў суседняга завода хлебапрадуктаў да сацыяльных работнікаў упраўлення сацабароны. Транспартныя, будаўнічыя і дарожныя прадпрыемствы накіравалі сюды (не па сваёй волі ж!) столькі тэхнікі, яна бурыла старыя халабуды, драбіла падмуркі...



Так спяшаліся, што нават не паспелі вывезці смецце. Звалку зрабілі... на самым беразе Дняпра! Яе пабачылі рыбакі, якія па першым лёдзе выйшлі на дняпроўскія затоны.

Наш карэспандэнт, прыехаўшы на бераг, сфатаграфаваў сметнік. Адзін са старых цэхаў прадпрыемства разам з усім сваім савецкім яшчэ абсталяваннем ссунуты ў выкапаны побач катлаван. Потым тэрыторыя была прыгожа разраўняная.

І месца лепшага не знайшлі — на ўзбярэжжы вялікай ракі.

У такіх жа катлаванах закапалі самыя розныя адкіды. Некаторыя з ямаў нават не былі закапаныя, бо насупраць тэрыторыі «Рэчыцадрэва» месца ўжо не хапіла і давялося капаць паміж ракой і тэрыторыяй суседняга завода металавырабаў.

Гэты ўчастак не бачны з дрэваапрацоўчага прадпрыемства, таму «мадэрнізатары», відаць, палічылі, што калі Лукашэнка і прыедзе правяраць «парадак» на «Рэчыцадрэве» — таго, што робіцца за гэтым кутом, ён не пабачыць.

Пры гэтым сюды працягваюць звозіць смецце: ад сапсаванага шпону, абрэзкаў сайдынгу да шкловаты і пустых бутэлек. Наш карэспандэнт знайшоў сярод смецця і інструкцыі на нямецкай мове да абсталявання, дзе заказчыкам выступае «Рэчыцадрэў».

Падчас вясновай паводкі ўсе гэтыя «скарбы дрэваапрацоўшчыкаў» могуць сплысці ў раку.

А экалагічная інспекцыя бяздзейнічае. Хоць шырыня водаахоўнай зоны вакол вялікіх рэк, да якіх адносіцца Дняпро, павінна складаць сама мала 300 метраў. Тут жа да зрэзу вады некалькі дзясяткаў метраў.

«Рэчыцадрэў» мае ў складзе гарадскога палігона цвёрдых побытавых адыходаў свой палігон. Але ж туды яшчэ вазіць трэба... Прасцей закапаць каля самога прадпрыемства. Вось толькі закон гэта забараняе.

### Ад рэдактара

Рэдакцыя хацела б пачуць рэакцыю рэчыцкіх уладаў на гэтую публікацыю. У той жа час я хачу звярнуць увагу тых жыхароў Рэчыцы, якія нам даслалі гэтую інфармацыю, вось на што. У чым корань праблемы? Так, кіраўніцтва прадпрыемства не па-гаспадарску зрабіла. Але адбылося так, бо людзям далі валюнтарысцкі загад зверху. Завалы збіраліся дзесяцігоддзямі, а прыбраць іх загадалі за нерэальна кароткі час. Інакш кіраўніцтву прадпрыемства пагражала звальненне, а то і суд. Прыбраць па-нармальнаму не было грошай. Вось і выкручваліся, як маглі. Вінаватых тут трэба шукаць не на заводзе, а наверсе.

# «Хопіць карміць...»

## Якія беларускія рэгіёны атрымліваюць **найбольш датацый**?

У любой краіне свету рэгіёны развіваюцца нераўнамерна. Дзесьці пашчасціла з карыснымі выкапнямі, а недзе нічога, апроч гор, і не ўбачыш. Жыхары больш багатых наракаюць на бяднейшых, маўляў, даводзіцца ўтрымліваць іх за свой кошт. Але выплата датацый — практыка, прынятая ў большасці краін свету.

Напрыклад, у суседняй Украіне летась на самаакупасці былі толькі шэсць абласцей з 24. Астатнія, у тым ліку, дарэчы, і Данецкая, існуюць за кошт дапамогі больш багатых рэгіёнаў.

У Расіі праблема яшчэ больш абвостраная. Некалькі гадоў таму выдаткі з бюджэту на аднаго жыхара Чачні перавышалі выдаткі на астатніх грамадзян у дзевяць разоў!

Ці існуе падобная сітуацыя ў Беларусі? Для аналізу мы ўзялі леташні рэспубліканскі бюджэт. Ён пераглядаўся некалькі разоў, каб усё ж звесці прыбыткі з выдаткамі. У дакуменце прапісаны памер датацый, якія выдзяляюцца кожнай з абласцей.

Агулам гэта $3,5 мільярда — больш за чвэрць усяго бюджэту краіны. Як іх дзеляць? Падрабязны адказ на пытанне трэба шукаць у абласных бюджэтах. Можна канстатаваць, што без прамых уліванняў абыходзяцца толькі тры раёны — Мінскі, Гродзенскі і Салігорскі.

**Датацыі па раёнах Беларусі***

| | |
|---|---|
| 1. Мінскі | 29 |
| 2. Салігорскі | 36 |
| 3. Дзяржынскі | 56 |
| 4. Гродзенскі | 60 |
| 5. Барысаўскі | 115 |
| 6. Смалявіцкі | 126 |
| 7. Маладзечанскі | 144 |
| 8. Гомельскі | 179 |
| 9. Лідскі | 211 |
| 10. Полацкі | 218 |
| … | |
| 109. Слаўгарадскі | 999 |
| 110. Чэрыкаўскі | 1009 |
| 111. Лоеўскі | 1012 |
| 112. Нараўлянскі | 1059 |
| 113. Ляхавіцкі | 1090 |
| 114. Чачэрскі | 1111 |
| 115. Кармянскі | 1140 |
| 116. Краснапольскі | 1204 |
| 117. Брагінскі | 1207 |
| 118. Дрыбінскі | 1209 |

*у 2013-м, у далярах на аднаго чалавека.

Аднак існуюць і іншыя віды рэспубліканскай дапамогі, так званыя субвенцыі. Гэта мэтавыя субсідыі. Напрыклад, $350 мільёнаў выдзяляюцца на пераадольванне наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Дзве трэціны ад гэтай сумы забірае сабе Гомельшчына.

Асобным артыкулам ідзе размеркаванне сродкаў на кампенсацыю падаражання калійных угнаенняў. Апроч таго, грошы выдзяляюцца на будаўніцтва жылля па чэках, газіфікацыю, дапамогу сельскай гаспадарцы...

У бюджэтах большасці абласцей не ўдакладняецца, як размяркоўваюцца гэтыя дробныя выдаткі па канкрэтных раёнах. Таму мы ўлічылі прамыя датацыі, чарнобыльскую дапамогу, калійную «кампенсацыю» і надзвычай любімыя чыноўнікамі «іншыя плацяжы».

Але выкарыстоўваць абсалютныя лічбы некарэктна — паўпустую Расоншчыну складана параўнаць са шчыльна заселеным Мінскім раёнам. Таму мы параўноўваем агульны аб'ём датацый у пераліку на аднаго жыхара.




Найбольшую дапамогу атрымліваюць малыя раёны Магілёўшчыны і Гомельшчыны. У Дрыбінскім раёне — рэкардсмене — датацыі з субвенцыямі дасягаюць $1209 на чалавека за год. У Брагінскім і Краснапольскім раёнах дапамога фактычна такая самая. З рэгіёнаў Заходняй Беларусі на бюджэтнай «ігле» летась апынуліся толькі Свіслацкі (103-е месца) і Ляхавіцкі (113-е) раёны.

Найменшую агульную дапамогу атрымліваюць раёны Міншчыны. З топ-7 пазіцый у рэйтынгу выключэннем выглядае толькі Гродзенскі раён (разам з Гародняй). Астатнія месцы размеркаваліся паміж рэгіёнамі Мінскай вобласці. Маладзечанскі, Смалявіцкі (разам з Жодзіна), Барысаўскі, Дзяржынскі, Салігорскі і Мінскі раёны бяруць з бюджэту найменш.

А што ж сталіца? Мінскі бюджэт прамых датацый зверху не атрымлівае, астатняя дапамога невялікая. Нешта за Чарнобыль, нешта на будаўніцтва транспартнай інфраструктуры — агулам $35 мільёнаў. Але пры гэтым сталіца яшчэ і сама ахвяруе ў рэспубліканскі бюджэт. Летась, напрыклад, у Мінска «папрасілі» пакласці ў агульную касу каля $605 мільёнаў.

**Ягор Марціновіч**

### Адкуль грошы?

Як фарміруюцца абласныя бюджэты? Каля 70-75% — гэта бязвыплатныя паступленні «зверху», з рэспубліканскага бюджэту. Трохі менш за 30% — падатковыя даходы. А рэшту даюць непадатковыя даходы — сродкі, атрыманыя ад здачы ў арэнду дзяржаўнай маёмасці, продаж нерухомасці, штрафы…

### Куды ідуць падаткі?

Падатак на дададзеную вартасць — 70% у рэспубліканскі бюджэт, 30% у абласныя і сталічны бюджэт (долі вызначаныя загадзя).

Падатак на прыбытак дзяржаўных кампаній — 50% у рэспубліканскі бюджэт, 50% у адпаведны абласны бюджэт.

## Сціcла

### Выраслі пенсіі

Карэкціроўка была праведзена 1 лютага. У выніку пенсіі грамадзян павялічацца ў сярэднім на 5,2%. Сярэдняя пенсія дасягне 2,32 мільёна рублёў — $240 у эквіваленце.

### Самы вялікі будаўнічы гіпермаркет

На скрыжаванні МКАД і Даўгінаўскага тракту ў Мінску запрацаваў гіпермаркет «Міля». Ягоныя ўласнікі тыя ж, што і ў сеткі будаўнічых крамаў «Навасёлкін».

### У тройцы нафтазалежных

Беларусь заняла трэцяе месца ў рэйтынгу найбольш залежных ад нафты эканомік. Рэйтынг складзены на аснове працэнтных адносінаў нафтавага экспарту да ВУП краіны за 25 гадоў — з 1993 да 2018 (разам з прагнознымі дадзенымі). У Беларусі адносіны вырастуць з 0,5% да 13,9% да ВУП. Большыя тэмпы прыросту нафтавага складніка толькі ў Лівіі і Сінгапура.

### «Баранавічыдрэў» нацыяналізаваны

Ва ўласнасць дзяржавы бязвыплатна перададзена 35% статутнага фонду кампаніі. Акцыі належалі прыватным акцыянерным таварыствам. Цяпер у дзяржавы будзе 83% акцый «Баранавічыдрэва».

### Расійскі рубель дэвальвуецца

Курс расійскай валюты за студзень зменшыўся ў адносінах да даляра на 7,7%, да еўра на 5,7%. Па прагнозах расійскіх фінансістаў, дэвальвацыя працягнецца.

**ЯМ**

# Жыццё дзяўчыны абарвалася на пешаходным пераходзе

У калонію адправіцца **шматдзетны бацька**.

Тры месяцы назад на пешаходным пераходзе ў мінскім мікрараёне Зялёны Луг грузавік збіў 25-гадовую дзяўчыну. 31 студзеня ў Мінску над кіроўцам МАЗа прайшоў суд. На ім прысутнічаў карэспандэнт «Нашай Нівы».

Віка Старасценка пераехала ў Мінск з Брэста. Яна хацела дапамагаць людзям. Працавала юрысконсультам у Беларускім саюзе прадпрымальнікаў, але душу аддавала праваабарончай дзейнасці ў Цэнтры па правах чалавека.

Бацькі Вікі кіроўцу ўпершыню пабачылі ў судзе. Пасля трагедыі Анатоль Булва званіў ім. «Хацеў прыехаць, на магілцы папрасіць прабачэння», — тлумачыў ён у судзе.

«У Бога прасі прабачэння», — адказаў яму бацька Вікторыі Аляксандр.

Тым не менш, бацькі падалі пазоў на кампенсацыю маральнай шкоды не кіроўцу, а фірме «Оствесттранскар», якой належыць МАЗ. «Што ён можа мне кампенсаваць?»

Бацькі просяць, каб ім выплацілі два мільярды рублёў.

Кіроўца МАЗа Анатоль Булва — такі рабацяга, яму пад сорак. Гаварыў мала, сядзеў галаву панурыўшы. Пасля аварыі яго не арыштавалі, таму на судзе ён быў не ў клетцы. Ён працуе на той жа фірме, толькі пасля аварыі перавёўся ў слесары.

Адвакатка адразу ж папрасіла перапынак, каб Булва «зрабіў прапанову» бацькам Вікторыі.

Слова ўзяла 60-гадовая мама кіроўцы. «Ніхто не хацеў, каб такая сітуацыя здарылася, — ужыла яна гэтае канцылярскае слова «сітуацыя». — Хочаце, я на калені стану», — і ўкленчыла перад бацькамі Вікі.

«Вы бароніце сваё дзіця, яно ў вас жывое, а я сваёй крывіначкі больш не пабачу», — прамовіла маці Вікі.

«Мы прапанавалі, але пацярпелы бок не хоча браць грошы», — рэзюмавала адвакатка, калі суд працягнуўся.

«А колькі прапанавалі?» — пацікавілася суддзя. — «10 тысяч даляраў».

Булва — бацька траіх дзяцей. Ад першага шлюбу ў яго дзве непаўналетнія дачкі. Плаціць на іх аліменты. Ад другога шлюбу — двухгадовы хлопчык. Кіроўца зарабляе 3—4 мільёны рублёў, жонка атрымлівае менш за два.

«У яго вялікая сям'я. Думаю, гэта правільна, калі грошы застануцца ў іх», — адмовіўся Аляксандр Старасценка.

Вікторыя загінула раніцай 30 кастрычніка 2013. Напярэдадні трагедыі дзяўчына вярнулася з Вільні — на дзень раней, чым планавала. Раніцай яна выйшла на працу.

Кіроўца МАЗа кажа, што глядзеў на аўтобус, які справа перад ім спыніўся на прыпынку. Баяўся, каб з-за яго не выскачылі людзі. І зусім не звярнуў увагі на тых, хто пераходзіў з іншага боку.

Нават калі адчуў удар, не зразумеў, у чым рэч. Абышоў МАЗ і ўбачыў дзяўчыну пад грузавіком, нагу ў яе раструшчыла і заціснула між колам і падрамнікам. Нягледзячы на дзікі боль, яна яшчэ была ў прытомнасці. Але праз пяцьдзясят хвілін дактары канстатавалі смерць.

«Проста не заўважыў... Я цалкам прызнаю сябе вінаватым», — прашаптаў Булва.

Экспертыза паказала, што МАЗ рухаўся на хуткасці 29 км/г, а зусім не 90 кіламетраў, як напачатку напісалі СМІ. Быў яркі сонечны дзень, без дажджу. «Здзейсніў наезд і пераезд на пешаходным пераходзе», — зачытала абвінавачанне пракурор.

«Якое б ён ні панёс пакаранне, нічога не зменіцца... Мая дачка, напэўна, зрабіла б так, як скажу я: каб яго не пазбаўлялі свабоды», — сказаў Аляксандр Старасценка.

Анатоля Булву асудзілі на два з паловай гады калоніі-паселішча за парушэнне правілаў дарожнага руху, што па неасцярожнасці пацягнула смерць чалавека. Гэта мяккая «зона»: па калоніі асуджаныя перасоўваюцца свабодна, толькі на працу выходзяць з кантралёрам. І яны не абмежаваныя ў спатканнях.

А пазоў на два мільярды яшчэ будзе разгледжаны ў асобным працэсе.

Праўда, калі пазоў задаволяць, усё-ткі кіроўца МАЗа будзе гэтую суму выплочваць свайму прадпрыемству. «Я гатовы гэта адпрацоўваць», — сказаў Булва.

**Сяргей Макарэвіч**



BELSP.COM

## Забіў малатком, запакаваў у дыван і вывез у лес

Забраў жыццё **за непадзеленае каханне**.

«Следствам устаноўлена, што ў пачатку 2013 ураджэнец Гомеля вырашыў здзейсніць забойства аднагодкі, якая не захацела падтрымліваць з ім блізкія адносіны. Для выканання задуманага ён увайшоў у змову са знаёмай сямейнай парай. Зламыснікі распрацавалі падрабязны план забойства», — паведаміла прадстаўніца ўпраўлення Следчага камітэта па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава.

План заключаўся ў тым, каб запрасіць 23-гадовую Марыну Аляксандраву ў кватэру нібыта дзеля рэпетытарства. А далей у кожнага была свая роля. Жонка сябра ў вітальні накінула на дзяўчыну хустку, а памслівы знаёмы нанёс некалькі ўдараў малатком па галаве. Марына памерла на месцы.



«Пасля забойства з яе сумкі скралі грошы. Каб схаваць сляды злачынства, абвінавачаныя змылі кроў у кватэры. Цела забітай загарнулі ў дыван, на аўтамабілі завезлі ў лес на тэрыторыі Веткаўскага раёна, дзе закапалі ў загадзя падрыхтаванай яме», — адзначыла Крываногава.

За забойства прадугледжваецца самае суровае пакаранне — аж да расстрэлу.

**СМ**

## Егіпцянін згвалціў беларуску ў Дубаі

Паскудства адбылося **ў шыкоўным гатэлі** Jumeirah Lake Towers.

28-гадовы грамадзянін Егіпта паўстаў перад судом за згвалтаванне беларускі ў Дубаі (Аб'яднаныя Арабскія Эміраты). Ён адмаўляе выстаўленыя абвінавачанні, а вінаваціць ва ўсім пацярпелую, паведамляе сайт gulfnews.com.

Пара пазнаёмілася ў інтэрнэце і вяла перапіску па пытаннях бізнэсу.

Грамадзянка Беларусі сустрэлася з грамадзянінам Егіпта ў гатэлі Jumeirah Lake Towers. У ходзе сустрэчы мужчына стаў дамагацца жанчыны і схіляць яе да інтымнай блізкасці. Ён сцвярджаў, што перад пачаткам дзелавых адносін ім трэба бліжэй спазнаць адзін аднаго.

У нейкі момант жанчына адпіхнула гвалтаўніка і паспрабавала замкнуцца ў спальні, каб выклікаць паліцыю, але егіпцянін высадзіў дзверы, паваліў жанчыну на ложак і згвалціў.

Пацярпелая голай выбегла з нумара, калі егіпцянін адышоў у ванны пакой. Егіпцянін пачуў, як стукнулі дзверы нумара і кінуўся за жанчынай. Аголеная пара ўварвалася ў ліфт, у якім ужо ехала некалькі чалавек, пацвердзілі суду сведкі.

Між тым падазраваны ўсе абвінавачванні адхіляе. Паводле яго словаў, беларуска спачатку замкнулася з ім у нумары, а затым спакушала і схіляла яго да інтымнай блізкасці. А пра згвалтаванне, сцвярджае ён, жанчына зманіла.

**СГ**

### Вышук




**Абдурыў на 550 мільёнаў**

Гамяльчук Павел Ягоўдзік падазраецца ў махлярстве. Ён пазычаў у знаёмых ад 2000 да 30000 даляраў і не вяртаў — агулам скрадзена 550 мільёнаў рублёў. Калі нехта пацярпеў ад гэтага чалавека, звяртайцеся ў Гомельскі аддзел Следчага камітэта на (0232) 36-17-51.

### Сцісла

**Пасек міліцэйскую машыну**

58-гадовы вясковец з пасёлка Глуша ў Бабруйскім раёне — на радзіме Алеся Адамовіча — напаў на міліцыянтаў, якія прыехалі ўлагодзіць сямейны скандал. Ён пяць разоў ударыў сякерай па службовым аўтамабілі. Яшчэ і за міліцыянерам пагнаўся, але тут яго і затрымалі.

**У кватэры студэнтаў у Мінску знайшлі сем выбуховых прылад**

Гаспадар вырашыў праверыць кватэру, якую здаў мінскім студэнтам, і знайшоў сем саматробных выбуховак. Эксперты высветлілі, што гэта паветраныя шары, напоўненыя петардамі і цукрам для ўзмацнення сілы выбуху. У чатыры прылады ў якасці паражальных элементаў былі дасыпаны гарох, а ў тры — металічныя балты. Студэнты патлумачылі, што хацелі ўзарваць іх у лесе. Следчыя праводзяць праверку.

**У Смалявічах кацяня выратавала гаспадыню**

Выпадак адбыўся ў Смалявічах у ноч на 28 студзеня. На «101» патэлефанавала жанчына, якая ўбачыла з акна агонь. Да месца выкліку былі накіраваныя ратавальнікі і «хуткая дапамога».

На момант пажару ў доме знаходзілася 67-гадовая гаспадыня. Да прыбыцця ратавальнікаў яна выбегла з хаты. Яе пабудзіла кацяня.

Жанчына атрымала апёкі твару, галавы, спіны, рук і ног 2-3 ступені (35—40% цела).

У доме яна жыла адна. Якая прычына пажару? Пажарныя думаюць на расколіну ў коміне.

**КМ; ej.by**

## Мільярд за смерць дачкі

Суд па справе аб гібелі дзяўчыны на аперацыі ў «Экамедсэрвісе» быў рэзанансны. Упершыню грамадства звярнула такую ўвагу на якасць прыватнай медыцыны. Упершыню атрымалі розгалас факты, а не ўражанні пра рвацтва некаторых дактароў-прыватнікаў. І поўную адсутнасць належнага дзяржаўнага кантролю якасці ў гэтай сферы.

Як, дарэчы, і ў іншых сферах, дзе пануе нерэгуляваны капіталізм — напрыклад, у будаўніцтве, вытворчасці будматэрыялаў ці рэстараннай сферы.

Беспрэцэдэнтнай стала і сума маральнай кампенсацыі, якую па рашэнні суда павінен сплаціць бацькам памерлай дзяўчыны «Экамедсэрвіс». Гэта 75 мільёнаў рублёў у якасці кампенсацыі матэрыяльнай шкоды і 1 мільярд рублёў — у якасці маральнай. Усяго каля 115 тысяч даляраў.

Тым не менш, суд у 10 разоў знізіў суму кампенсацыі проці заяўленай бацькамі ў пазове.

**Сяргей Гезгала**

# Старшакласнік-медаліст захапіў закладнікаў у маскоўскай школе

**Забітыя настаўнік** і паліцэйскі.


BBC.CO.UK

Узброены падлетак уварваўся ў школу №263 у маскоўскім Атрадным 3 лютага. На ахоўніка наставіў ствол бацькавай стрэльбы і загадаў правесці яго. Мужчына толькі і паспеў націснуць на «трывожную» кнопку.

15-гадовы Сяргей прыйшоў у школу з паляўнічым карабінам і дробнакаліберная вінтоўкай. Ён хацеў трапіць на ўрок любімай настаўніцы рускай мовы і літаратуры. Хацеў даказаць, што жанчына не мела рацыі, калі ў дыскусіях з ім даказвала, што добрых людзей на свеце больш. Але спазніўся на яе ўрок. І зайшоў у суседні кабінет — там быў 29-гадовы настаўнік геаграфіі. Падлетак пабаяўся, што географ можа выхапіць у яго зброю, і двойчы стрэліў. Малады настаўнік сканаў у бальніцы.

Калі прыехала паліцыя, Сяргей пачаў страляць па ёй. Аднаго паліцэйскага забіў, другога параніў. А затым замкнуўся ў кабінеце з дзесяцікласнікамі. Ніякіх патрабаванняў не выстаўляў. Калі пачаліся тэлефонныя перамовы, дазволіў свайму бацьку зайсці ў клас.

І ўжо калі закладнікаў выпусцілі, у кабінет уварваўся спецназ.

Школьнік быў замкнёны, негаваркі, знаёмыя характарызуюць яго ціхонем. Вучыўся ў дзясятым класе, ішоў на залаты медаль.

Калі яго спрабавалі дапытаць, ён выставіў дзве ўмовы — убачыць любімую настаўніцу рускай мовы і літаратуры і атрымаць чай з пячэнькамі. І настаўніца прыехала, ёй падлетак і расказаў пра свой учынак. Ён таксама сказаў, што ішоў у школу, каб загінуць. Але не хацеў застрэліцца — чакаў іншай смерці.

Мэр Масквы Сяргей Сабянін пасля гэтага здарэння загадаў праверыць сітуацыю з бяспекай ва ўсіх маскоўскіх школах.

КМ

**Фотафакт**


НАДЗЕЯ ГАЦАК

**Цуд прыроды. «Пагоня» на марозным акне.**

# Выйшла кніга турэмных аповедаў Змітра Дашкевіча «Чарвяк»




«Бывае, што і з турмы можна нешта вынесці», — так пракаментаваў выхад зборніка палітвязень і старшыня Маладога фронту Зміцер Дашкевіч выхад.

«Кніга — мастацкія творы, якія Зміцер напісаў як падчас свайго першага зняволення ў 2006-2008 гадах, так і падчас апошняга, амаль трохгадовага турэмнага тэрміну, — раскрывае цікавыя акалічнасці жонка Змітра Наста Дашкевіч (Палажанка). — Мы доўга вагаліся, ці ўключаць у кнігу публіцыстыку, аднак усё ж вырашылі зрабіць «Чарвяка» кнігай выключна турэмных апавяданняў».

Палажанка кажа, што «Чарвяк» — кніга «перажыванняў і назіранняў».

«Змітру выдатна ўдаецца апісваць рэчаіснасць і сябе ў гэтай рэчаіснасці. Пры гэтым ён не робіць сябе героем. У «Чарвяку» няма аніякай фанабэрыстасці і адсутнічае розніца паміж людзьмі ў турме і людзьмі звонку турмы — усе разам мы так ці інакш знаходзімся ў адной краіне-турме».

Кніга выйшла ў цвёрдай вокладцы накладам у тысячу асобнікаў. Дызайн вокладкі зрабіў мастак Алесь Сакалоў: прачытаўшы апавяданні, ён стварыў вобраз «чалавека-чарвяка». (Штосьці ў гэтым вобразе ёсць ад «Раба» Аляксандра Грубэ — класічнай беларускай скульптуры.)

Па словах Насты Дашкевіч прэзентацыя кнігі ў Мінску адбудзецца цягам наступнага месяца.

Кірыла Хілько



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Жменька попелу

28 студзеня, калі ў Маскве адбывалася пахаванне Юрыя Ізраэля, у Мінску памёр Генадзь Грушавы.

Невядома, ад якой хваробы памёр Юры Ізраэль. На 84-м годзе жыцця хвароба, па сутнасці, адна — глыбокая старасць.

Вядома, ад якіх хвароб паміраюць на 64-м годзе жыцця, — сэрца альбо рак. Сэрца Генадзя Грушавога не вытрымала раку крыві.

Час развёў гэтых людзей, якія наўрад ці ведалі адзін аднаго, на дваццаць гадоў па нараджэнні, але злучыў на сыходзе з жыцця.

Юры Ізраэль, акадэмік, сусветна вядомы адмысловец ў пытаннях метэаралогіі, экалогіі, клімату, чалавек ад маладосці ўшанаваны высокімі ў СССР, а потым і ў Расіі, званнямі, пасадамі і ўзнагародамі. Адну з іх — ордэн Леніна — ён атрымаў за Чарнобыль. Менавіта ён ствараў мапы радыяцыйнага забруджвання, маляваў ягоныя лічбы, што праўда, розныя ці не штодзень... У асаблівую заслугу яму ставяць прадухіленне панікі ў Кіеве і радыёактыўнага дажджу ў Маскве...

Генадзь Грушавы ніякіх узнагарод ад беларускай дзяржавы не атрымліваў. Філосаф, палітык, гуманіст... Амаль чвэрць стагоддзя ён узначальваў фонд «Дзецям Чарнобыля». Неўпрыкметна вывозіў дзяцей на аздараўленне ў розныя чысцюткія мясціны планеты, ладзіў гуманітарную дапамогу... Сцвярджаюць, што гэтай дапамогай скарысталася каля 2 мільёнаў чалавек, а колькасць аздароўленых дзяцей перавысіла паўмільёна...

У паведамленнях пра смерць Юрыя Ізраэля згадвалася, што яшчэ ў 50-х гадах мінулага стагоддзя ён ці не на сабе вымяраў уздзеянне радыяцыі пасля ядзерных выпрабаванняў пад Сяміпалацінскам. І быццам гэта дапамагло яму атрымаць праўдзівую карціну таго, што здарылася ў Чарнобылі, дзе ён, тагачасны старшыня Дзяржкамгідрамета СССР, апынуўся 27 красавіка, на другі дзень...

Генадзь Грушавы нічога не вымяраў на сабе ў навуковых мэтах. Наўрад ці ў каго ёсць медыцынскія доказы, што ён захварэў на лейкемію ад Чарнобыля, хаця ніколі не страшыўся ездзіць у Зону. Але каб лічыць лейкемію чарнобыльскай хваробай, беларусам доказы не патрэбны. І ў гэтым сэнсе Генадзь Грушавы вымяраў на сабе тое, што вымяралі і вымяраюць на сабе мільёны беларусаў. І не толькі апраменьванне так званымі «малымі дозамі радыяцыі», але і вялікімі дозамі хлусні.

## Ізраэль — дзеля дзяржавы для ўлады. Грушавы — дзеля дзяржавы для людзей

Хлусні, да якой адразу, з першых дзён катастрофы, спрычыніўся Юры Ізраэль.

У велізарным чарнобыльскім дасье, на якое не забыліся сёння ці не адны навукоўцы, сабраны дзясяткі, сотні фактаў, прыкладаў і доказаў той хлусні. Дастаткова ўзгадаць, як з удзелам Ізраэля ў 10, а ў «асаблівых выпадках» у 50 разоў падвышаліся «нормы дапушчальных узроўняў апраменьвання»; як ён даваў заключэнні на вяртанне цяжарных жанчын і дзяцей у мясціны, якія сам жа месяц таму лічыў небяспечнымі; як з дапамогай падначаленай авіяцыі апрастоўваў над Беларуссю смяротныя хмары, а потым няўцямна і супярэчліва, блытаючыся ў датах і мэтах, тлумачыў тыя «жоўтыя дажджы»...

Упэўнены: калі б адбыўся суд не толькі над кіраўнікамі Чарнобыльскай АЭС, але і над усёй сістэмай татальнай хлусні, Юры Ізраэль фігураваў бы не сведкам, а падсудным. Абвінаваўцам на тым судзе, безумоўна, быў бы Генадзь Грушавы, пацярпелымі — беларускія дзеці. Бо ніхто, як ён, не ведаў усёй праўды пра «чарнобыльскіх вожыкаў». Мо медыкі? Але медыкі таксама хлусілі — маніпулявалі статыстыкай, хавалі чарнобыльскія прычыны хвароб і заўчасных смярцей...

Між тым, у афіцыйным паведамленні пра смерць Ізраэля, у неафіцыйных водгуках таксама, анічога пра ягоную злавесную ролю ў «мінімізацыі» наступстваў Чарнобыля не ўзгадваецца. Больш за тое — ён названы «сапраўдным інтэлігентам».

Што ж вымушала «сапраўднага інтэлігента» хлусіць? З якіх умоў «сапраўдныя інтэлігенты» ператвараюцца ў адэптаў татальнай хлусні?

Такіх прычын процьма — перадусім страх. Але чаго страшыцца чалавеку, які з малады гадоў нібыта дзеля навукі ахвяраваў сабой?

Не, не страх падпіхнуў Ізраэля ў абдымкі хлусні. «Ён быў сапраўдны дзяржаўнік», — кажа пра яго вядомы падарожнік і дэпутат Дзярждумы Чылінгараў. І гэта праўда. Бо тое, што рабіў Ізраэль у навуцы, у адміністрацыйнай дзейнасці, наогул у жыцці, было падпарадкавана самаахоўным інтарэсам таталітарнай, а потым аўтарытарнай дзяржавы, то бок дзяржаўнай улады. Улады, якая, натуральна, не жыве без хлусні.

Вось акалічнасць, якая і злучае Ізраэля і Грушавога, і разводзіць іх па розныя бакі на Боскім судзе — яны абодва ахвяравалі сабой.

Ізраэль — дзеля дзяржавы для ўлады. Грушавы — дзеля дзяржавы для людзей. Не той, што падкладвае пад людзей новы Чарнобыль ў Астраўцы. А той, што ратуе ад усіх чарнобыляў. Бо якая ж гэта будзе дзяржава, калі ў ёй не будзе людзей?!

...Не ведаю, ці сустрэнуцца яны недзе па-за межамі бясконцага неба, ці спраўдзіцца надзея на Боскі суд. Адно несумненна: жменька попелу, што засталася ад Генадзя Грушавога, переважыць на шалях найвышэйшай Справядлівасці цяжкую шыкоўную труну «сапраўднага дзяржаўніка».

Бо яна, гэта жменька, сталася часцінкай чарнобыльскага попелу.

Попелу, што ўжо ніколі не знікне з роднай зямлі.

# Алімпіяда Пуціна

7 лютага ў Сочы пачнуцца зімовыя **Алімпійскія гульні**.

Алімпійскія гульні інтрыгуюць тым, хто ж сусветных лідараў прыедзе ў Краснадарскі край, а хто прабайкатуе. Барак Абама, Ангела Меркель, Франсуа Аланд, Дэвід Кэмеран, Даля Грыбаўскайце не прыедуць на Гульні. Затое будзе Аляксандр Лукашэнка, якога два гады таму не паклікалі ў Лондан, і Віктар Януковіч.

Расійскія СМІ спрабуюць падаць, што байкот сусветнымі лідарамі Алімпіяды праходзіць праз тое, што ў Расіі забароненыя «аднаполыя шлюбы». Звыклы перавод стрэлак! Тое самае, напрыклад, робіць Лукашэнка, калі кажа, што Еўропа патрабуе ад Беларусі дазволу на гей-шэсці. Гэтак прыватнымі аспектамі замяняюць пытанні карупцыі, дэмакратыі і свабоды.

Алімпіяда — гэта асабісты праект Пуціна. Увесь час кіравання гэтага чалавека прайшоў пад словамі «Расія ўстае з кален». У Сочы гэта павінна быць замацавана афіцыйна — устала. Пуціну гэтага вельмі б хацелася.

Аднак пакуль паведамленні з Сочы поўныя абсурду. Як тыя два ўнітазы без перагародак, што так насмяшылі і напалохалі свет.




**З такой вокладкай выйшаў папулярны амерыканскі часопіс Time.**

**Беларуская дэлегацыя ў Сочы**

Біятлон (10 спартсменаў) — Дар'я Домрачава, Надзея Скардзіна, Людміла Калінчык, Настасся Дубарэзава, Надзея Пісарава; Сяргей Новікаў, Яўген Абраменка, Юрый Лядаў, Уладзімір Чапелін, Аляксандр Дарожка.

Фрыстайл (7) —Аляксей Грышын, Дзмітрый Дашчынскі, Антон Кушнір, Дзяніс Осіпаў; Ала Цупер, Ганна Гуськова, Вольга Капусціна.

Лыжныя гонкі (6) —Сяргей Далідовіч, Аляксандр Лазуткін, Міхаіл Сямёнаў, Аляксей Іваноў; Алена Саннікава, Валянціна Камінская.

Горныя лыжы (2) —Юры Данілачкін; Марыя Шканава.

Шорт-трэк (2) —Максім Сяргееў; Вольга Талаева.




**Залаты скачок Аляксея Грышына на Алімпіядзе ў Ванкуверы.**

А яшчэ прагрымеў «выдатны» пароль да сочынскага «вай-фая» — «berlin1936». Гэта ў 1936 годзе Алімпіяду ў Берліне адчыняў Адольф Гітлер.

«Сочы — горад духоўнасці і дабра! Такім слоганам сустрэў нас горад! За два дні з трох крамаў нас спрабавалі падмануць у трох. На прэтэнзіі адказалі словамі: «А што, вы думалі, у казку патрапілі?» Цэны на таварах аказваюцца не сапраўдныя, а чэкавы апарат раптам ламаецца і, як потым аказваецца, сума прабітага стала ў 10 разоў большай, чым цана набытага! Добра мы, хоць ведаем, як разабрацца, а вось бедныя замежнікі, напэўна, і не заўважаць, што іх падманулі», — так незадоўга да Алімпіяды апісвае сочынскія рэаліі беларуская біятланістка Надзея Скардзіна.

Другое важнае пытанне, якое хвалюе свет. Ці будзе Алімпіяда ў Сочы бяспечнай, ці не спраўдзяцца самыя чорныя прагнозы? Бяспека на Алімпіядзе будзе неймаверная. Зноўку ж даходзіць да абсурду — у Алімпійскую вёску нельга праносіць прадукты ў шкле. Спартсмены будуць абавязкова праходзіць праз металашукальнік.

Усё ж трэба сказаць некалькі словаў уласна пра спорт. Беларусь на Алімпіядзе прадставіць рэкордна нізкая колькасць атлетаў — 27. Хакеісты падарылі пуцёўку Славеніі. Некалі беларус Ігар Жалязоўскі браў срэбра ў каньках на Алімпіядзе ў Ліліхамеры, а сёння каньказбежцы нават не змаглі заваяваць ніводнай ліцэнзіі. Няма нашых і ў фігурным катанні.

Калі казаць проста, то наш інтарэс зводзіцца да двух пунктаў праграмы — жаночага біятлона і мужчынскага фрыстайла (хай прабачаць іншыя ўдзельнікі беларускай дэлегацыі).

У біятлоне мы маем унікальную Дар'ю Домрачаву — саму хуткую біятланістку свету. Калі Дар'я добра адстраляецца, то медалёў павінна быць многа. У Надзеі Скардзіны — іншы плюс, яна выдатны стралок, а вось бегае яна павальнавата. У інтэрнэце жартуюць: вось бы неяк аб'яднаць хуткасць Домрачавай і трапнасць Скардзіны. Можа, нешта і ўдасца ў эстафеце.

Фрыстайл — гэта ўвогуле беларускі феномен. Некалі ў СССР гэты від спорту сталі развіваць якраз у Беларусі, на базе акрабатычнай школы. Дзякуючы геніяльнаму трэнеру Мікалаю Казеку, поспехі аказаліся ашаламлялі. Чатыры Алімпіяды запар (!) мы бралі медалі ў гэтым відзе праграмы. Сёлета незвычайна моцныя кітайцы, расейцы перацягнулі нашага Цімоха Сліўца, але ўсё адно Аляксей Грышын, Дзмітрый Дашчынскі, Антон Кушнір у ліку галоўных прэтэндэнтаў на медалі.

**Зміцер Панкавец**

ЦА — Цырымонія адкрыцця; • — Кваліфікацыі; № — Фіналы спаборніцтваў; ПВ — Паказальныя выступленні; ЦЗ — Цырымонія закрыцця

| ЛЮТЫ | | 06 | 07 | 08 | 09 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | Медалі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Цырымоніі | | | ЦА | | | | | | | | | | | | | | | | ЦЗ | |
| Біятлон | | | | 1 | 1 | 1 | 1 | | 1 | 1 | | 1 | 1 | | 1 | | 1 | 1 | | 11 |
| Бабслей | | | | | | | | | | | | • | 1 | • | 1 | | | • | 1 | 3 |
| Гарналыжны спорт | | | | | 1 | 1 | | 1 | | 1 | 1 | 1 | | 1 | 1 | | 1 | 1 | | 10 |
| Кёрлінг | | | | | | • | • | • | • | • | • | • | • | • | • | 1 | 1 | | | 2 |
| Канькабежны спорт | | | | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | | 1 | 1 | | 1 | 1 | | • | 2 | | 12 |
| Лыжнае двaяборства | | | | | | | | 1 | | | | | | 1 | | 1 | | | | 3 |
| Лыжныя гонкі | | | | 1 | 1 | | 2 | | 1 | 1 | 1 | 1 | | | 2 | | | 1 | 1 | 12 |
| Скачкі з трампліна | | | | • | 1 | | 1 | | | • | 1 | | 1 | | | | | | | 4 |
| Санны спорт | | | | • | 1 | • | 1 | 1 | 1 | | | | | | | | | | | 4 |
| Скелетон | | | | | | | | | • | 1 | 1 | | | | | | | | | 2 |
| Сноўборд | | • | | 1 | 1 | | 1 | 1 | | | | 1 | 1 | | 2 | | | 2 | | 10 |
| Фігурнае катанне | | • | | • | 1 | | • | 1 | • | 1 | | • | 1 | | • | 1 | | ПВ | | 5 |
| Фрыстайл | | • | | 1 | | 1 | 1 | | 1 | 1 | | | 1 | 1 | | 2 | 1 | | | 10 |
| Хакей | | | | • | • | • | • | • | • | • | • | • | • | • | • | 1 | • | • | 1 | 2 |
| Шорт-трэк | | | | | | 1 | | | 1 | | 2 | | | 1 | | | 3 | | | 8 |
| Медалёў за дзень | | | | 5 | 8 | 5 | 8 | 6 | 6 | 6 | 7 | 5 | 6 | 5 | 8 | 6 | 7 | 7 | 3 | 98 |
| Медалёў усяго | | | | 5 | 13 | 18 | 26 | 32 | 38 | 44 | 51 | 56 | 62 | 67 | 75 | 81 | 88 | 95 | 98 | |

# Салодкае рабства

**У малых гарадах пануе абсалютны страх, піша Дзяніс Рабянок з Калінкавіч.**

Сацыёлагі кормяць нас байкамі пра так званы «сацыяльны кантракт», які як быццам заключаны паміж аўтарытарным рэжымам і абсалютнай большасцю насельніцтва Беларусі. Зразумела, што «кантракт» гэты не замацаваны юрыдычна, і на Усебеларускім сходзе «найлепшыя прадстаўнікі» народа і начальнік лукашэнкаўскай адміністрацыі сваімі подпісамі яго не замацоўвалі.

«Сацыяльным кантрактам» эксперты называюць адмову беларусаў ад грамадзянскіх свабод у абмен на нейкі ўзровень матэрыяльнага дабрабыту, які забяспечвае ім улада. «Карацей кажучы, беларуская «мара» — гэта чарка, скварка, іншамарка (у большасці выпадкаў — вельмі і вельмі патрыманая), а зусім не свабода, дэмакратыя і правы чалавека», — напісаў адзін з навукоўцаў.

Зыходзячы з гэтага, некаторыя палітолагі і тлумачаць усе няўдачы і паразы апазіцыі. Маўляў, ёсць 25% грамадзян — тых, хто не прымае рэжым менавіта па прынцыповых пытаннях (адсутнасць правоў і свабодаў), а астатнія 75% — гэта тыя, для каго гэты самы «сацыяльны кантракт» важнейшы за асабістую, грамадзянскую і нацыянальную годнасць. «І яны ніколі не пойдуць за апазіцыяй», — пафасна піша навуковец.

### Толькі гэта няпраўда

Але гэта погляд сытага чалавека са сталіцы. Ая, жывучы ў правінцыі, бачу рэальнае паўсядзённае жыццё людзей. Магу сцвярджаць, што так званы «сацыяльны кантракт» — гэта міф.

**Па-першае,** у Беларусі існуе вялікае адрозненне паміж афіцыйным і рэальным узроўнем прыбыткаў хатніх гаспадарак. Статыстыка дэкларуе сярэдні заробак больш за 600 даляраў у эквіваленце. Пры гэтым, у Калінкавічах 90% працаўнікоў добра калі атрымліваюць 3–3,5 мільёна зайчыкаў (у пераліку чыстымі — каля 300 даляраў).

У той жа час цэны ў нас не ніжэйшыя за еўрапейскія. Як за прадукты, так і за паслугі. Часам даходзіць да смешнага, калі атрыманне дыплома ў правінцыйным Мазырскім педуніверсітэце каштуе больш, чым у некаторых універсітэтах Еўропы. Таму мне абсалютна незразумела, як такая сур'ёзная і аўтарытэтная ўстанова, як НІСЭПД, можа рабіць нейкія высновы, зыходзячы з дадзеных лукашэнкаўскай статыстыкі?

**Па-другое,** ужо згаданы 2011 год, калі Беларусь перажыла сапраўдную фінансава-эканамічную катастрофу, надзвычай яскрава паказаў тое, наколькі прывідныя «ўмовы кантракта».

Улады ўжывалі карныя меры, каб змусіць людзей маўчаць. Не на нейкім кантракце, а на страху трымаецца ўся сістэма.

### Рабы — не мы?

Калі існуе нейкі «сацыяльны кантракт», то абодва бакі павінны яго выконваць.




А ў нас не кантракт, а салодкае рабства. Можаце запытацца: а чаму салодкае? А якое яшчэ?

Клясці на чым свет стаіць дрэнную ўладу, скардзіцца на жыццё і адначасова пры апытанні з гатоўнасцю казаць пра тое, што на будучых выбарах буду галасаваць за Лукашэнку, па першым загадзе бегчы на акцыю «За моцную і квітнеючую» і паслухмяна несці пашпарт, каб аддаць подпіс за чарговага палатачніка — ці ж гэта не **«грамадскае садамаза»?**

Як прыклад — маленькая замалёўка. У калінкавіцкае аддзяленне незалежнага прафсаюза РЭП звярнуліся супрацоўнікі аднаго з мясцовых прадпрыемстваў з просьбай скласці заяву на імя старшыні прафкама гэтага прадпрыемства. Заява была своечасова падрыхтаваная, але далей падзеі развіваліся ў горшых традыцыях тэатра абсурду. Працаўнікі не наважыліся падаць заяву старшыні прафкама, а вырашылі спытацца дазволу на гэта ў дырэктара прадпрыемства. Той, канечне ж, забараніўва ўльтыматыўнай форме. І тыя падпарадкаваліся, хоць праблемы ў заяве былі акрэслены даволі востра. Вось такая проза жыцця. Вось такі «сацыяльны кантракт».

### Гульня ў «выбары»

Казаць у такой сітуацыі пра «паразы» апазіцыі проста не выпадае.

Хоць апазіцыя ў сваіх праграмах даўно аддае галоўнае месца праблеме «пуза і задніцы», адсунуўшы на задні план высокія ідэалы. *А ў адказ —...цішыня.*

Рабы ж думаюць не пра тое, каб змяніць нешта да лепшага, яны думаюць, каб не стала яшчэ горш. *«Пенсію пакуль жа не адмянілі, а маглі б, бо яе ж Лукашэнка з асабістай кішэні плаціць»,* — прыкладна такая логіка ў неадукаванай часткі насельніцтва.

Дзе ж выйсце? Мне яно бачыцца ва ўзмацненні існых структур дэмакратычнай супольнасці (і палітычных, і грамадскіх), у абароне дзейсных актывістаў, а шырэй — у стварэнні цалкам аўтаномных ад улады і дзяржавы асяродкаў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Той жа, хто працягвае прапагандаваць ідэю, згодна з якой можна перамагчы лукашэнкаўскі рэжым на «выбарах» тут і цяпер, ці недалёкі ўтапіст, ці агент уплыву. Тое ж можна аднесці і да прыхільнікаў мяккай эвалюцыі Лукашэнкі праз «мадэрнізацыю» і «ўцягванне ў Еўропу».

Пакуль пануе страх, перамен не будзе. Людзі ў нейкі момант перарастуць грамадскі страх так, як дзеці перарастаюць свае дзіцячыя страхі. Мы тое адчуем на ўсіх узроўнях. Але пакуль таго не здарылася, трэба кінуць гуляць у дурныя «выбарныя» гульні з Ярмошынай і цалкам засяродзіцца на разбудове і стварэнні новых структур, асабліва на рэгіянальным узроўні.

Трэба мець моцны, падрыхтаваны кулак, які ў патрэбны пераломны момант, на сапраўдных выбарах, раструшчыць стаўленіка антыбеларускіх сіл.

**Дзяніс Рабянок, актывіст Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Калінкавічы, Гомельская вобласць**

### Дзякуй Леаніду Крупцу



31 студзеня ў канцылярыі суда Барысаўскага раёна 82-гадовай Ніне Гурко паведамілі радасную вестку. Вызначэнне суддзі Болатавай М.Р. ад 13 студзеня бягучага года аб падаўжэнні на тры гады права пражывання Гурко Н.І. у аднапакаёвай кватэры яе памерлага мужа Гурко В.Я. гарадскімі ўладамі абскарджана не было і ўступіла ў законную сілу. Ох і намучылася Ніна Гурко з той кватэрай… Мясцовыя ўлады шматкроць спрабавалі выселіць жанчыну з жылля яе нябожчыка мужа. Двойчы суддзі суда Барысаўскага раёна Малчанава і Кобец прымалі пастанову аб прымусовым высяленні. І так цягнулася, пакуль з дапамогай праваабаронцаў з Барысава жанчына не дабілася на прыём да Леаніда Крупца.

Гэты чыноўнік некалькі гадоў узначальваў Мінскі аблвыканкам, а затым быў адным з кіраўнікоў Савета рэспублікі. І вось гэты добры чалавек не паленаваўся ўдумацца ў справу і разабрацца. Ён два разы хадайнічаў перад Барысаўскім райвыканкамам за жанчыну. І той урэшце ў 2010 годзе распарадзіўся прапісаць на 3-гадовы тэрмін інваліда другой групы ў спрэчным жыллі.

У канцы мінулага года тэрмін гэтай прапіскі скончыўся, і судовыя выканаўцы зноў пачалі дасылаць састарэлай жанчыне апавяшчэнні аб высяленні. На дапамогу ёй зноў прыйшлі праваабаронцы, якія падрыхтавалі неабходныя звароты да старшыні райвыканкама і старшыні суда.

**Аляксандр Абрамовіч, Барысаў**

### Ну і баяцца

Прыбраў міністр Святлоў Пагоню з «Пана Тадэвуша» (№3). Але ж Пагоня ўжо з 2009 года з'яўляецца гербам Віцебска згодна з указам «каралеўскім». Яна ж унесена ў спіс культурных каштоўнасцяў тым жа міністэрствам. Не, чуеш ты, дагэтуль наш святы герб наводзіць жах на нячысцікаў...

**Сяргей Грамацей**

Вы прасілі падняць пытанне

## Цэны на сацыяльныя паслугі выраслі на 40%

У Рэдакцыю звярнуўся чытач Павел Давыдзенка, які жыве ў пасёлку Парычы, што ў Светлагорскім раёне. Яго абурае, што ад сярэдзіны студзеня на 40% падняліся цэны на паслугу сацыяльнага супрацоўніка.

«Мы з жонкай жывём удваіх, абое — інваліды другой групы, — кажа спадар Давыдзенка. — Я ветэран працы, а таксама ветэран Чарнобыля. І мы даведаліся, што за паслугу сацыяльнага супрацоўніка цяпер давядзецца плаціць не сто тысяч рублёў, як тое было раней, а сто сорак тысяч, што для нас шмат. Я пацікавіўся, чаму паслуга так падаражэла — мяне накіравалі ў Гомельскі аблвыканкам».

Па словах Паўла Давыдзенкі, жыццё ў Парычах увогуле няпростае. Калі выклікаць «хуткую дапамогу», то яна ў вёску дабіраецца дзве з паловай гадзіны. Вялікую частку грошай з'ядаюць лекі.

У Гомельскім аблвыканкаме «НН» патлумачылі, што цэны на сацыяльных супрацоўнікаў узнялі, бо апошнія змены ў цэнах былі ажно два гады таму.

«Раней паслуга каштавала 2400 рублёў за гадзіну, то цяпер — 3500 рублёў. Льготы ў нас маюць адзінокія і малазабяспечаныя грамадзяне», — кажа начальніца аддзела развіцця сацыяльнага абслугоўвання і сацыяльнай дапамогі Наталля Суздалева.

**Юрась Ускоў**

Бяда

## Маломму Эдзіку трэба дапамога

Эдзіку Базанаву 5 гадоў, у яго ДЦП 4 ступені цяжкасці і эпілепсія. Ужо 4 гады ён знаходзіцца на Праграме інтэнсіўнага лячэння ў Інстытуце чалавечага патэнцыялу Глена Домана. Гэтая праграма прадугледжвае заняткі бацькоў з дзіцем дома і прыезд 1-2 разы на год у ЗША для абследавання.

На ім пры нараджэнні лекары паставілі крыж. Сёння Эдзік выдатна бачыць, чытае, рашае матэматычныя прыклады, мае зносіны з бацькамі пры дапамозе спецыяльнай методыкі, разумее навакольны свет, спрабуе ўстаць на ножкі.

І пакуль адзінае месца ў свеце, дзе такіх дзяцей вучаць самастойна рухацца, —гэта Інстытут Глена Домана ў Філадэльфіі. Чарговы візіт туды прызначаны на 3 сакавіка 2014 года.

Бацькам удалося сабраць 6300 даляраў ЗША, агульная сума выдаткаў на паездку складае прыкладна 11500 даляраў.

Усе справаздачы па сродках за папярэднія паездкі —на сайце dcp.by.

Адна з мінулых паездак ужо адбылася дзякуючы дапамозе чытачоў «Нашай Нівы».

Дапамагчы можна, пералічыўшы сродкі на дабрачынны рахунак у філіяле №514 АСБ «Беларусбанк», УНП 100420097; МФО 153001614. Прызначэнне плацяжа: На Дубінка Вольгу Вячаславаўну для лячэння сына Базанава Эдуарда.

**У беларускіх рублях** — №000000008 (Транзітны рахунак №3819382102369 пры пералічэнні сродкаў юрасобай).

**У далярах ЗША** —№8400000000112 (Транзітны рахунак №3819382109779 пры пералічэнні сродкаў юрасобай).

**У еўра** —№9780000000018 (Транзітны рахунак №3819382109779 пры пералічэнні сродкаў юрасобай).

**У расійскіх рублях** — №6430000000009 (Транзітны рахунак №3819382109779 пры пералічэнні сродкаў юрасобай).

Кашалёк Paypal: lorena.vlds@mail.ru

Нумар кашалька EasyPay: 09814460

Нумары кашалькоў Webmoney: Бел.рублі: B131285312953, даляры ЗША: 310650633740, расійскія рублі: R249762746578, еўра: E149232757799.




**Для паштовых пераказаў:**

Атрымальнік: Дубінка Вольга Вячаславаўна

Пашпарт МР 2051911 выд. Савецкім РУУС Мінска

Адрас: 220017 Мінск, вул. Кунцаўшчына, 15-15.

### Паштовая скрынка

**Андрэю З. з Мінска.** Вырашаць сямейныя маёмасныя спрэчкі трэба ў судзе, а не ў Рэдакцыі «Нашай Нівы» і тым больш не ў лістах прэзідэнту Расіі. Гэта вам нічога не дасць.

**Уладзіміру В. з Тулы.** «Усё залежыць ад людзей. Адкуль ўзяцца нацыянальнаму, калі беларусы як пластылін (мякка кажучы). З'ехаў у Кіеў — украінец, у Маскву — рускі, — піша Вы. — А потым наракаюць, што мала нацыянальнага, мова знікае і гэтак далей. Раскажыце гэта палякам, якія за сто гадоў акупацыі і адсутнасці сваёй дзяржавы змаглі захаваць свядомасць».

Нацыянальную свядомасць фармуюць улады, сістэма адукацыі і СМІ. У палякаў большую частку XIX ст., аж да паўстання 1863 года, СМІ і сістэма адукацыі заставаліся свабоднымі і сваімі, ніяк не залежалі ад чужой улады. А вось у аўтарытарнай Беларусі і СМІ, і сістэма адукацыі цалкам падпарадкоўваюцца ўладам, у нас вельмі цэнтралізаванае грамадства. Таму тут ад уладаў залежыць шмат. Нацыянальная ідэнтычнасць — гэта не штосьці прыроджанае, гэта тое, што на нейкім этапе фармуецца, а пасля можа слабець або мацнець у залежнасці ад умоваў.

# Няма Гогаля, але ёсць навука

На экраны выйшаў расійска-брытанскі **«Вій»**.

Сучасны расійскі кінематограф, творы якога займаюць значнае месца ў беларускім кінапракаце, вядомы сваёй катастрафічнасцю. Часам здаецца, што субсідаваныя з федэральнага бюджэту пошлыя камедыі і патрыятычныя меладрамы здымаюць дзеля асваення гэтага самога бюджэту і глыбейшага ўкаранення пуцінскіх «духоўных скрэп».

На іх фоне апошняя экранізацыя гогалеўскага «Вія» выглядае дзіўна. Мабыць,ператварэнню фільма ў трэш перашкодзіў статус міжнароднага праекта: удзел у ім, акрамя Расіі, узялі Брытанія, Германія, Чэхія і Украіна. А здымаў «Вія» ўсё ж расійскі рэжысёр — малавядомы Алег Сцепчанка. Да гэтага ён выпусціў два пасрэдныя баевікі. Таму ў мастацкім плане «Вій» аказаўся яшчэ адной пасрэднасцю.




«Вій» абсалютна не адпавядае заяўленаму жанру фільма жахаў — ён больш нагадвае камедыю. Адзіны страшны момант за ўсе дзве з паловай гадзіны фільма — «падманка», нечаканы рэзкі і гучны ўдар чоўна, у якім героі плывуць пасярод абсалютнай цішыні балота, аб падводны корч. Сцепчанка і нагнаў густы туман, як Цім Бёртан у «Соннай лагчыне», і перанёс дзеянне ў злавесны цьмяны лес, нібыта ў «Вядзьмарцы з Блэр» ці «Таямнічым лесе» Шамаляна, але так і не здолеў ахутаць гледача атмасферай трывогі.

Перашкодзілі персанажы. Яны анекдатычныя і стэрэатыпныя. Прыкарпацкі хутар, дзе разгортваецца дзеянне «Вія», населены выключна казакамі: з чубамі, шаблямі, завушніцамі. Пры гэтым адзіная справа хутаран — беспрабуднае п'янства. У добрай палове сцэн з'яўляецца нязменная бутэлька мутнай гарэлкі, якую, паводле заведзенай расійскім кінематографам традыцыі, усе славяне ўжываюць замест вады. У канцы фільма, калі на экране з'яўляецца гіганцкі лагатып гарэлачнай кампаніі «Хортыця», пытанні аб матываванасці вёдраў выпітай гарэлкі адпадаюць самі сабой.

З пратаганіста, картографа з прасветленай Еўропы Джонатана Грына ў выкананні англійскага акцёра Джэйсана Флемінга ўвогуле зрабілі камічнанаіўнага Іванушку-дурня, нібыта скапіяванага з савецкіх дзіцячых кіноказак кшталту «Марозкі». Калі і пашукаць, на ролю сур'ёзнага персанажа можа прэтэндаваць хіба што дзяўчына Настуся, бо яна не размаўляе, вар'ятка ад самага пачатку (анямела і страціла розум праз перажыты стрэс) і з'яўляецца ў кадры ў некалькіх кароткіх эпізодах. Таксама дарма шукаць у фільме Гогаля — ад твора класіка засталася толькі назва.

Аднак «Вій» нечакана цікавы сваім каштоўнасным пасылам. У той час, як у Расіі многія турбуюцца пра занурэнне краіны ў рэлігійнае цемрашальства, «Вій» у выніку становіцца рэкламай навуковага светапогляду. Выявілася, што ніякага чараўніцтва не існуе, а ўсю чартаўшчыну зладзіў з дапамогай навуковых вынаходніцтваў галоўны злодзей — уладалюбны праваслаўны святар, які хацеў стаць прарокам новай рэлігіі і для эксперыменту выбраў украінскі хутар.

**Кірыла Хілько**

# Дзядзька Адольф, які праспаў незалежнасць

У «Дзеяслове» выйшла новая **аповесць Андрэя Федарэнкі**.

Выдатны пісьменнік Андрэй Федарэнка 17 студзеня адсвяткаваў сваё 50-годдзе. Літаратуразнаўца Міхась Тычына кажа, што «Федарэнку можна лічыць класікам, які жыве і шмат працуе ў адзін з намі час». «Федарэнка амаль адзіны, хто цяпер апісвае штодзённую рэальнасць простых людзей з вёскі, — дадае Тычына. — Здавалася б, ён сам даўно жыве ў горадзе, аднак душой ён з гэтымі людзьмі, з іх болем і клопатам».

Новая аповесць Федарэнкі «Дзядзька Адольф» апублікавана ў лістападаўска-снежаньскім нумары «Дзеяслова». Пры першым знаёмстве з творам здаецца, што ў цэнтры ўвагі — звычайная побытавая гісторыя няўдачніка. 55-гадовы Адольф усё жыццё адпрацаваў мастаком-афарміцелем на камвольным камбінаце. Ён марыць намаляваць маштабнае палатно, а пакуль трэніруецца на акварэльках. Прычым кожны раз у Адольфа атрымліваецца адзін і той жа пейзаж.

Але вобраз дзядзькі — гэта яшчэ і калектыўны партрэт той часткі нацыі, якая праспала «самыя цікавыя, пераломныя гады», часы нацыянальнага адраджэння і абвяшчэння незалежнасці, і засталася абыякавай да пераўтварэнняў ва ўсіх сферах жыцця. Жыццё Адольфа ў тыповым раённым гарадку нагадвае паўсоннае існаванне.

Перад галоўным героем паўстаюць дзве альтэрнатывы. Першая — вяртанне да вёскі, да сваіх каранёў. Нездарма Іван, брат Адольфа, успрымае хутар як «сімвал нацыі», які дапамог «выжыванню беларусаў, злучыў заходнікаў і ўсходнікаў». Але Адольфавы сваякі, якія там жывуць, нібыта знаходзяцца ў гета, якое схавана ад людзей за надзейнай агароджай «у выглядзе ромба па перыметры». Талян, адзін з пляменнікаў Адольфа, хапануў радыяцыі і разышоўся з жонкай. Яго брат Лёнік баіцца людзей і хаваецца ад іх. Хутчэй за ўсё, ад іх не застанецца ніякіх спадчыннікаў. Не дзіўна, што Адольф не жадае ехаць да сваякоў, бо «прымхлівы», а таму верыць, што «можна набрацца няўдач ад іх».


МІРАСЛАЎ АДАМЧЫК

Другая альтэрнатыва — пераезд у сталіцу, дзе могуць ацаніць «талент» Адольфа. Тут лёс робіць герою падарунак: разведзеная бухгалтарка забірае яго ў Мінск. Сталіца выступае ў аповесці сімвалам беларускіх мараў, ажыццявіўшы якія, можна жыць па-іншаму. Але герой не прыкладае для таго ніякіх намаганняў. Грамадзянская жонка з кватэрай, праца з высокім заробкам, вандроўка ў Парыж успрымаецца мужчынам як належнае. Нават у Мінску ён працягвае маляваць адзін і той жа пейзаж. Цікава, што для сваякоў (у прыватнасці, для пляменніка Таляна) Адольф становіцца героем, які прабіўся ў сталіцу. Таму не дзіўна, што галоўны герой застаецца вартым толькі таго жыцця, якога заслужыў.

Калі вы любіце глыбокі псіхалагізм, то гэты твор — для вас.

**Дзяніс Марціновіч**

**Аповесць апублікавана ў №6 (67) часопіса «Дзеяслоў», сайт dziejaslou.by**



### Анатолю Грыцкевічу — 85

Гісторык Анатоль Грыцкевіч нарадзіўся 31 студзеня 1929 у Мінску. Даследаваў гісторыю прыватнаўласніцкіх гарадоў Беларусі часоў Рэчы Паспалітай. І напісаў цудоўныя гістарычныя нарысы пра Аршанскую бітву, паўстанне Тадэвуша Касцюшкі і Слуцкі збройны чын.

Выкладчыца ўніверсітэта культуры Юлія Чарняўская называе Грыцкевіча сапраўдным беларускім інтэлігентам. «Я хацеў вывучаць гісторыю і чалавека ў гісторыі, — прызнаваўся Грыцкевіч ёй. — Таму спачатку пайшоў у медінстытут, трэба ж было ведаць унутраную прыроду чалавека. Потым — у Лінгвістычны: трэба ж было навучыцца чытаць кнігі на замежных мовах. А потым ужо — на гістфак: вывучаць, як дзейнічае чалавек у гісторыі».



### Арсеню Лісу — 80

Літаратуразнаўца Арсень Ліс нарадзіўся 4 лютага 1934 на Смаргоншчыне. Шматгадовы супрацоўнік Нацыянальнай акадэміі навук, Ліс многія гады збіраў і аналізаваў каляндарна-абрадавы фальклор. Але найперш яго заслуга — у напісанні захапляльных біяграфій дзеячоў нацыянальнага руху. Сярод іх мастак Пётра Сергіевіч, мастацтвазнаўца Мікола Шчакаціхін, палітык Браніслаў Тарашкевіч.

«Уменне бачыць на перспектыву, рэльефна абвострана, віртуозна спалучаючы навуковы падыход да тэмы з мастацкай вобразнасцю, — вось галоўныя рысы творчай манеры Арсеня Ліса», — пісаў пра даследчыка краязнаўца Міхась Казлоўскі.

**Глеб Кандрацьеў**

## Сцісла

### Сігоў стаў рэжысёрам

Дырэктар Тэатра беларускай драматургіі Ігар Сігоў дэбютуе як рэжысёр. 5 і 6 лютага ён пакажа спектакль «Нямое каханне» — казку для дарослых. Акцэнт робіцца на песнях і танцах. Дарэчы, Сігоў застаецца адзіным беларусам, якога за апошнія 20 гадоў намінавалі на «Оскар». Фільм «Дзверы», у якім ён здымаўся, трапіў у намінацыю «Найлепшы кароткаметражны гульнявы фільм».

### «Матрошка» ад «Ляпіса»

Песня будзе загалоўнай у новым альбоме Міхалка, па словах музыкаў, «расейскім». Песня мае яскравы палітычны падтэкст. У здымках кліпа ўзяў удзел піцерскі гурт «НОМ» — флагманы расійскага авангарду. А касцюмы ў іх — з Жэнеўскай оперы.

### Будуць танцы

Адкрыты форум пластычных тэатраў мае назву «ПлаSтформа Мінск — 2014». Ён пройдзе 11–16 лютага. У праграме — найлепшыя пастаноўкі беларусаў, у тым ліку «ІнЖэста», самага славутага айчыннага калектыва. Замежжа будзе прадстаўлена польскім тэатрам «Teatr Formy» з Уроцлава.

### Вучаніца Пінігіна возьмецца за «Шабаны»

Цэнтр эксперыментальнай рэжысуры ладзіць лабараторыю, падчас якой маладыя рэжысёры паказваюць урыўкі з будучых спектакляў. Сярод іх — «Шабаны» паводле Альгерда Бахарэвіча, які ставіць Алена Ганум, вучаніца Мікалая Пінігіна. Паказ адбудзецца ў Цэнтры 7 лютага (вул. Каліноўскага, 50а). Пачатак а 15-й.

**ГК, ЮУ**

# Сям'я Луцкевічаў

У якіх умовах гадаваліся стваральнікі беларускай незалежнасці? Пра радзіну Яна і Антона Луцкевічаў піша **Анатоль Сідарэвіч**.



Дзеці Луцкевічаў: малы Ян (сядзіць) з сёстрамі Станіславай (злева), Вікторыяй і Марыяй Алёйзіяй.

### Жонкі пана Яна Баляслава

Тое, што адстаўны капітан царскай арміі пан Ян Баляслаў Луцкевіч быў блізка знаёмы з панам Вінцэнтам Якубам Дуніным-Марцінкевічам, здаецца, ужо агульнавядомы факт. Як і той факт, што Беларускі Дудар настойліва раіў пану Яну Баляславу жаніцца:

Кінь жыццё бурлацкае,
а пашукай жынкі,
Маладой, прыгожай і любяшчай
цебе,
Каб усі зайздравалі і глыталі слінкі.

Верш гэты («Заўтра Спаса, кажуць людзе...») паэт напісаў у 1868 годзе. Вянчаўся ж Ян Баляслаў Луцкевіч праз няпоўныя 6 гадоў — 24 чэрвеня 1874 года, на Яна Прадвесніка.

Жонкаю 43-гадовага шляхецкага кавалера стала панна Казіміра Асяцімская. Ад Казіміры ў пана Яна Баляслава нарадзіліся дзве дачкі: Станіслава (1877–1953) і Марыя Алёйзія (1876–1914).

Можна думаць, што пані Казіміра Луцкевічава памерла ў 1878-м ці на пачатку 1879-га, бо ўжо ўвесну 1880 года пана Яна Баляслава вянчалі другі раз — у Радашковіцкім касцёле (праз два гады ў тым самым касцёле будуць хрысціць Яна Луцэвіча — Янку Купалу).

Другою жонкаю 49-гадовага чыноўніка Лібава-Роменскай чыгункі стала 23-гадовая панна Зоф'я Лычкоўская, дачка ўладальніка невялікага фальварка Ракуцёўшчына, што каля Краснага. Ад другое жонкі ў пана Яна было пяць дзяцей: Ян Герман (1881–1919), Вікторыя (?–?), Антон (1884–1942), Эмілія (1886–1974) і Стэфан (Сцяпан; 1889–1947).

Каля імя Вікторыі Луцкевічанкі пытальнікі пастаўлены таму, што дзяўчынка памерла ў маленстве і належныя дакументы аб яе нараджэнні і смерці пакуль што не выяўлены. Тут трэба зацеміць таксама, што малодшы з братоў Луцкевічаў атрымаў сваё імя ў гонар дзядзькі — Стэфана Луцкевіча, які загінуў у сутычцы з царскім войскам у 1863 годзе. Пра тое, што Стэфан Луцкевіч-старэйшы быў паўстанцам, Антон Луцкевіч пісаў у лісце да прафесара Ягелонскага ўніверсітэта Юзафа Каленбаха — таго самага, які абгрунтаваў беларускае паходжанне Міколы Гусоўскага.

Асобна трэба сказаць пра Яна Германа. У Расійскай Імперыі ўсе «нярускія» імёны наколькі магчыма русіфікаваліся. І Ян Герман стаў Іванам. Перамена імя была выклікана і тым, што Яну Герману даводзілася жыць і працаваць у пераважна расійскамоўным асяроддзі. Для родных, для многіх сяброў Грамады і нашаніўцаў ён заставаўся Янам. Гэта сведчыла Зоська Верас.

### Адукацыя

І пан Ян Баляслаў, і пані Зоф'я дбалі пра адукацыю дзяцей, іх выхаванне і, ведама ж, дабрабыт. Пачнем з апошняга. Яшчэ трэба даследаваць дакументацыю Лібава-Роменскай чыгункі, каб высветліць, якія пасады займаў бацька сямёх дзяцей, якія ў яго былі прыбыткі. Ва ўсякім разе нам вядома, што Луцкевічы сталі менскімі домаўладальнікамі. Іх двор з домам ды іншымі пабудовамі знаходзіўся на вуліцы Хрышчэнскай, на тэрыторыі сучаснага Купалаўскага парка, недалёка ад Музея Янкі Купалы.

Нічога не магу пакуль сказаць пра адукацыю Станіславы і Марыі Алёйзіі, а малодшая Луцкевічанка, Эмілія (па-хатняму Міля), вучылася ў Беластоцкім інстытуце шляхетных дзяўчат. Што ж тычыцца сыноў, дык Ян і Антон скончылі Менскую мужчынскую класічную гімназію і абодва паступілі ў Пецярбургскі імператарскі ўніверсітэт. Іван вучыўся на юрыста; апроч таго, ён — з дзяцінства аматар даўніны і калекцыянер — займаўся ў Археалагічным інстытуце. Маладыя Луцкевічы рана сталі палітыкамі, і гэта не магло не адбіцца на іх вучобе. Якая вучоба, калі адзін сядзіць у славутых піцерскіх «Крастах», а другі — у Пішчалаўскім замку, а потым абмежаваны ў праве перамяшчэння? Тым не менш дакладна вядома, што Іван стаў дыпламаваным археолагам. Што ж тычыцца Антона, дык маецца яго curriculum vitae, у якім чытаем: «Праслухаў поўны курс фізіка-матэматычнага факультэта ўніверсітэта ў Пецярбургу (дзяржаўных экзаменаў не здаваў), потым вывучаў права ва ўніверсітэце ў Дорпаце» (Дорпат — гэта па-нямецку Дэрпт, па-расейску Юр'еў, а па-эстонску Тарту).

Такім чынам, закончанай вышэйшай адукацыі Антон не меў, але ў яго была моцная гімназічная база, многае ж ён дабраў самаадукацыяй. З копіі пашпарта Антона Луцкевіча, якую засведчыў дырэктар Віленскай беларускай гімназіі ксёндз Адам Станкевіч, мы можам даведацца, што ён размаўляў папольску, беларуску, французску і нямецку. Чамусьці ў пашпарце не адзначана, што А. Луцкевіч валодаў і расійскай мовай. На ўсіх гэтых мовах ён пісаў. Апроч таго, мы маем сведчанні, што ён перакладаў тэксты з лаціны і старажытнагрэцкай.

Малодшы Луцкевіч, Сцяпан, у палітыку не ўмешваўся і таму паспяхова вывучыўся на лекара. Універсітэт у Дорпаце ён скончыў перад самай Першай сусветнай вайной і адразу ж быў мабілізаваны. У аддзеле рукапісаў бібліятэкі імя Урублеўскіх у Вільні захоўваюцца дакументы, з якіх вынікае, што Луцкевічу ў Юр'еў неаднаразова пераводзіліся грошы: 25, 50, і нават 100 рублёў. Можна думаць, старэйшыя браты дапамагалі малодшаму.

### Выхаванне

А. Луцкевіч пісаў, што ў іх сям'і, якая «жыла ўспамінамі аб напалеонаўскім паходзе і паўстаннях 1831 і 1863 гадоў, жыла ідэаламі дэмакратызму з часоў французскае рэвалюцыі і паўстанчаскімі настраеннямі», заўсёды панаваў дэмакратычны дух. Можна дапусціць, што ў сям'і Луцкевічаў жыла памяць аб Вялікімі Княстве Літоўскім і дзяцей выхоўвалі ў краёвым духу. Аднак краёўства ў шляхецкіх сем'ях мела польскую афарбоўку. З тае прычыны, што ў школах Паўночна-Заходняга краю польская мова не вывучалася, маладых Луцкевічаў вучылі дома. Думаецца, выпрацоўваць польскае маўленне, засвойваць культуру польскай мовы дзецям пана Яна Баляслава і пані Зоф'і дапамагала бонна. Гэта не гувернантка, не нянька, а хутчэй памочніца маці ў выхаванні дзяцей. Бонну мы бачым на адным з сямейных здымкаў.

Выхаваныя ў польскай культуры, сёстры, Станіслава і Эмілія, пісалі свае лісты Антону выключна па-польску. Польскаю моваю карысталася ў перапісцы і пляменніца Яніна (пазней Каханоўская). У 1925 годзе Яніна пісала з Мінска дзядзьку ў Вільню, што польскую сямігодку яна скончыла і паступіла на прыродазнаўчае аддзяленне агульнаадукацыйных курсаў, дзе навучанне вядзецца па-беларуску і па-расійску. Беларускую мову, паведамляла пляменніца, яна ведае, а вось з расійскай «trochę trudności».

### Шлях да Беларусі

Гімназічныя гады Івана і Антона прыпалі на цікавы час. Да 1890-х сфармавалася ўкраінская (кіеўская) гістарычная школа, бацькам якой быў Уладзімір Антановіч. З ягоных «Манаграфіяў па гісторыі Заходняй і Паўднёва-Заходняй Расіі» беларускія гісторыкі чэрпалі веды аб Вялікім Княстве і ў савецкі час. Вучнем Антановіча быў, у прыватнасці, Міхайла Грушэўскі. Вучнем Антановіча быў і пачынальнік беларускай гістарыяграфіі Мітрафан Доўнар-Запольскі. Яшчэ два вучні — Пётр Галубоўскі і Васіль Данілевіч — выдалі ў 1890-я кнігі з гісторыі Смаленскай і Полацкай земляў, якія таксама нямала паслужылі беларускім гісторыкам у савецкі час.

Я не выключаю, што творы У. Антановіча і яго вучняў паўплывалі на братоў Луцкевічаў, асабліва на цікаўнага да гісторыі Яна. У той час адна за адной выходзілі беларусазнаўчыя кнігі этнографаў, фальклярыстаў і мовазнаўцаў.

Гэта толькі здаецца, што ўсё беларускае (беларусінскае, русінскае) замерла ці памерла ў Паўночна-Заходнім краі. Насамрэч яно ніколі не памірала. Не забывайма, што ў 1890-я выйшлі кнігі Францішка Багушэвіча, першнаперш «Дудка беларуская» з прадмовай-маніфестам беларускага нацыяналізму. Не выключаю, што сярод бацькавых папер юныя Луцкевічы маглі знайсці і кніжкі Дуніна-Марцінкевіча. Ва ўсякім разе ягоныя творы яны чыталі. Але на фармаванне асобы не меншы ўплыў, чым кнігі, маюць асабістыя кантакты. Калі браты Луцкевічы прыехалі ў сярэдзіне 1890-х з Лібавы, дзе служыў бацька, у Менск, дык тут было каму на іх паўплываць.

Аб той пары ў Менску жылі два дзівакі і два фанаты, якія вылучаліся з польска- і расійскамоўнага інтэлігенцкага асяроддзя падкрэсленай беларускасцю. Першы з іх — археолаг, гісторык і калекцыянер Генрых Францішак Татур, якога адзін тагачасны польскі дзеяч назваў беларусам-нацыяналістам і ворагам палякаў, другі — мастак, паэт і фальклярыст Казімір Кастравіцкі, які ўвайшоў у гісторыю беларускага руху як Карусь Каганец. Уплыў Татура на Яна Луцкевіча засведчыў у сваіх успамінах рэдактар-выдавец «Нашай Нівы» Аляксандр Уласаў, які таксама быў вучнем гэтага чалавека. Пра ўплыў Каганца лапідарна згадаў Антон Луцкевіч.

### Сёстры, брат і пляменнікі

Пачнем не з большай Станіславы, а з наступнай Луцкевічанкі, Марыі, якая ў замустве мела прозвішча Плявака. Пра яе мала чаго магу сказаць. Ведаю, што яе магіла — побач з бацькавай на Кальварыі. Пайшоўшы з гэтага жыцця, яна пакінула чатырох сірот. Дзяцей у пачатку 1920-х забрала да сябе ў Варшаву Станіслава. Большы з іх, Вацлаў Плявака, у 1939 годзе служыў у Войску Польскім і трапіў у савецкі палон. Як і тысячы польскіх вайскоўцаў, ён быў расстраляны, але не ў Катыні, а ў Пяціхатках пад Харкавам.

Пра Станіславу я ведаю пакуль толькі тое, што яна жыла ў Варшаве. Яе лісты да Антона захоўваюцца ў віленскай бібліятэцы імя Урублеўскіх.

Больш мы ведаем пра малодшую з Луцкевічанак, Эмілію. З Антонавых успамінаў «За дваццаць пяць гадоў» можна зразумець, што малодшая сястра ведала пра сякія-такія таямніцы братоў-сацыялістаў. Замуж яна выйшла за чалавека, таксама блізкага да сацыялістаў. Яе муж, інжынер і педагог Аляксандр (Алесь; Ole , як пісала Эмілія ў лістах да Антона), быў родным братам аднаго з заснавальнікаў Сацыялістычнай Грамады, адваката Антона Шабуні. У Эміліі і Алеся Шабуняў было трое дзяцей: Яніна, Марыя і Эдвард (Эдзюня, Дзюнік). З жніўня 1936 года яе арыштавалі як сябра контррэвалюцыйнай групы, а ў 26 ліпеня 1938 года вызначылі меру пакарання: 2 гады лагераў.

Можна сказаць, што сястра пайшла ўслед за малодшым братам, Сцяпанам, якога ГПУ лічыла сувязніком паміж нацдэмам Янкам Купалам і віленскім нацфашыстам Антонам Луцкевічам. Доктара Луцкевіча, які працаваў у 3-й менскай гарадской больніцы, а ў драматычным 1930-м аказваў першую дапамогу свайму суседу Янку Купалу, у 1934 годзе саслалі на Беламорска-Балтыйскі канал. У Беларусь ён ужо не вярнуўся. Пахаваны на поўначы Расіі, у Манчагорску Мурманскай вобласці.

У 1936 годзе ў рукі НКВД трапіла і меншая дачка Эміліі Шабуні, Марыя, якая скончыла Менскі медыцынскі інстытут. Яна атрымала 3 гады лагераў за антысавецкую прапаганду. Доктар Шабуня таксама не вярнулася ў Беларусь. З 1939 г.працавала рэнтгенолагам у Манчагорску. Лічыцца пачынальніцай рэнтгеналогіі ў гэтым горадзе. Выйшла замуж за агранома Сяргея Чапялёва. У час вайны доктару Чапялёвай давялося быць хірургам і тэрапеўтам. Узнагароджана медалямі «За абарону Запаляр'я» і «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне». У 1973 г. выйшла на пенсію. Жыла ў Пецярбургу, брала ўдзел у жыцці беларускай дыяспары і Таварыства ахвяр сталінізму «Мемарыял».

Эмілія Шабуня пасля этапаў вярнулася ў Менск. Тут заставаліся яе большая дачка Яніна і сын. Яна зноў была суседкай Янкі Купалы і Купаліхі. Гэты сюжэт, таксама іншыя сюжэты, звязаныя з міжваенным жыццём малодшай Луцкевічанкі, я пастараюся выкласці ў наступнай публікацыі.

# Ружанец

Антон Рудак. Апавяданне

**1.**

— Заходзьце, чалавеча, не тапчыцеся.

Мужчына сярэдніх гадоў, у выцертых вайсковых галіфэ, падпярэзаных савецкай дзягай, у клятчастым шэрым пінжаку паверх крамнай кашулі, пераступіў парог і прычыніў дзверы ў закрыстыю. Ксёндз тымчасам з нечаканай для такой мажнай постаці грацыяй, амаль падбег да стала і плюхнуўся ў крэсла. Зняў і працёр хустачкай акуляры, вярнуў іх на нос. Махнуў рукою на крэсла насупраць, запрашаючы наведніка прысесці, і склаў далоні на стале перад сабою, паказваючы, што гатовы слухаць.

— Сын уродзіўсе, ойча. Тша охшціць, —пачаў было госць, няёмка тонучы ў нізкаватым крэселку, і раптам змоўк.

— Ну што вы, праз аднаго проста, галаву дурыце, людцы мае, — ксёндз, спахмурнеўшы, забарабаніў пальцамі па стале. — Вы па-беларуску можаце?

— Магу, пане ойча, ясна рэч, магу. Па прывычцы мы... — мужычок усміхнуўся, нібыта выбачаючыся і вяртаючыся думкамі да прамоўленага. — Ага, сынок нарадзіўся, амаль два тыдні ўжо. Мароз, халера на яго, то баяліся на вуліцу вынесці. А пахрысціць жа трэба. Пільна, — на апошнім слове ўсмешка знікла.

— Дакументы ёсць? — бліснуў шкельцамі ксёндз.

— Ёсць, пане ойча, усё ёсць. Беларускай нацыянальнасці...

— Добра, — перабіў святар. — Я бачу, мы абодва тут усё разумеем, і раз ужо вы з гэтым сутыкаліся... Паўсюль, разумееце, ёсць нашыя людзі... Прабачце, я маю на ўвазе — паўсюль ёсць людзі. І ў новай Беларусі, як кажа наш дарагі камісар, — тут ксёндз ці то закашляўся, ці то папярхнуўся, — як кажа наш дарагі генеральны камісар: у новай Беларусі ўсе будуць беларусы, і мы над гэтым працуем, — тут ён сумна ўсміхнуўся і падняў на наведніка вочы. — Ну, а мы яму ў гэтым усяляк дапамагаем. Праўда, крыху іншымі метадамі, — і зноў усміхнуўся госцю.

— То я вам тут гурочкаў салоненькіх прынёс...

— Перастаньце! — замахаў рукамі пробашч.

— Пане ойча, я ж на іх сам глядзець не магу! — мужчына асёкся і, паразірнуўшыся з ксяндзом, рассмяяўся. — На нарыхтоўчай базе раблю, на Свіслачы. Жонка, як перад вайной старэйшую дзеўку раджала, дужа іх прасіла. То я і гэтым разам ёй цераз цэлы горад бочачку прыпёр. Крыку было! «Ты шьто, здугнеў? Немці ж хіба палічаць, гасстгаляюць к такой-та мацегы!»

Разам зарагаталі, але ксёндз хутка сумеўся:

— Добра. Прыходзьце хоць заўтра.

— У вігілію? — здзівіўся просьбіт.

— У вігілію. Цяпер кожны дзень на кошт золата.

**2.**

Ранкам перадкаляднага дня ў закрыстыі быў іншы госць. Малады чалавек у паўвайсковым гарнітуры, шчыльна зачыніўшы за сабой дзверы, рашучым крокам прайшоў да стала і ўпэўнена, без запрашэння, апусціўся ў крэсла.

— Сяргей? — аж прыўзняўся ў крэсле пробашч. — Што здарылася? Мы ж дамаўляліся: у касцёл — толькі ў скрайнім выпадку.

— Часу няма, Вінцэнт Іванавіч. Не здарылася, але можа здарыцца. Плануецца ваш арышт.

Узнікла паўза.

— Я нікуды не пайду, — рашуча прамовіў ксёндз.

— Вінцэнт Іванавіч, вы не сабой рызыкуеце... — уважліва паглядзеў на яго хлопец.

— Сяргей, я нікуды не пайду. Прынамсі, да заўтра. Я ўсё-ткі святар. Хто, па-вашаму, будзе правіць імшу?.. Яны не насмеляцца, у рэшце рэшт.

— Добра, — пасля пэўных развагаў кіўнуў госць, падымаючыся. — Будзем спадзявацца. Вас сустрэнуць на рагу Маркса і Ленінскай. Я сыходжу сёння.

— Пачакай. Вось табе, — пробашч дастаў з шуфлядкі і працягнуў маладзёну ружанец.

— Што гэта?

— Чёткі — так, здаецца? Маліцца.

— Я ж няверуючы.

— Правільна. Вось і не вер. Нікому. Бог у цябе ўсё роўна верыць, а людзям не вер, — пільна ўзіраючыся ў твар Сяргея, прашаптаў ксёндз. — Думай сваёй галавой, хлопец.

— Усё будзе добра. Вы ж наш чалавек, Вінцэнт Іванавіч. Як вы там пісалі? «Мы ня маем права прымаць удзелу ў самазнішчэнні альбо дапусціць да яго, да барацьбы беларуса-партызана з беларусам-валасным старшынёй, беларуса-паліцыянта з беларусам-партызанам...»

— «...Сёння мы ўсе беларусы з-пад аднаго бела-чырвона-белага сцяга, злучаныя адною ідэяю барацьбы за незалежную Бацькаўшчыну, а кожная стрэльба ў беларускіх руках — гэта адзін козыр болей у вырашальным розыгрышы». З Богам, Сяргею!

Мужчыны абняліся.

**3.**

Святочную імшу правіў капелан літоўскага батальёна, пробашчаў сусед. У натоўпе пераказвалі, што за пару гадзінаў перад імшой нейкія людзі ў цывільным прывезлі айца Вінцэнта на кватэру, спраўдзілі сейф і патлумачылі, што ксёндз з'язджае ў Рыгу. Як надоўга — невядома. І калі капелан чытаў з Евангелля ад Мацея, як Езус нарадзіўся ў Бэтлееме Юдэйскім у дні цара Ірада, усе перасталі шаптацца, а калі нехта на хорах заспяваў «Божа, што калісь народы на асобкі падзяліў...» — ля Феліцыянавай капліцы заплакаў на руках у бацькі новаахрышчаны хлопчык. І мужчыны, што стаялі групай поруч, у кутку — у чорных паліцэйскіх мундзірах, ва ўшытых савецкіх уніформах, у польскіх зеленаватых фрэнчах, — усміхаліся малому і бацькам, і спявалі гучней. Спявалі, бо ведалі, што наступных Калядаў для іх можа не быць.

**4.**

— Стой, малы. Куды ідзёш?

Ромка застыў пасярод лясной сцежкі. Два дзядзькі — вялікія, з чорнымі аўтаматамі, выйшлі з-за спіны і абступілі яго з бакоў.

— Мама сказала —ёлку ссекчы. Ёлку дамоў нясу.

— Дык быў жа Новы год, — здзівіўся барадаты мужчына.

«Як не халодна яму без шапкі?» —падумаў Ромка. А другі, маладзейшы, без барады, адказаў:

— Раждаство ж, Сямёнавіч.

— Раждаство-о-о! Усе пра Бога ўспомнілі! — сплюнуў барадач. — А мы скора зусім забудзем —дзякуй таварышу камандзіру, маць яго так і гэтак! Восем чалавек з разведкі ў расход, па п'яні, без суда і следствія!.. Я вось што думаю, Юра: хай бы нас цяпер лепш немцы прыстрэлілі, чым свае пасля...

— Ладна, ты меней языком мянці, а то самі так ляжам. Хадзем ужо... І ты дамоў ідзі, малы, а што чуў і бачыў — маўчы, зразумеў?.. Стой, куды сарваўся!

Ромка зноў застыў на месцы. Маладзейшы падыйшоў і нечым памахаў у яго перад носам:

— Трымай бусікі, на ёлку павесіш.

Дзве пары ботаў за спінай, аддаляючыся, захрумкалі па сцежках.

Ромка пераждаў, як мама вучыла, сунуў ружанец за пазуху і пайшоў сваёй дарогай.



**Антон Рудак**

Нарадзіўся ў 1989 у Мінску. Скончыў гістарычны факультэт БДУ. Працуе вэб-рэдактарам. Паэт, празаік.

**Газетка дзеткам**

Андрэй Хадановіч

## Спрэчкі

Я спрачаюся з бацькамі.
Я пярэчу тату й маме.

— Цёплы швэдар апрані!
— Ён нязручны для гульні!
— Перш — урокі, не гулянкі!
— Не, спачатку горка, санкі!
— Так, тры дні без «Калыханкі».
— Мама! Не!
— Чатыры дні
без камп'ютарнай гульні.

— Клякса! Болей не пішы так!
(Я — дзве кляксы ў новы сшытак.)
Мама кажа: — З'еш баршчу!
— Ён нясмачны, не хачу!
— З хлебам!
— Я хачу без хлеба!..

Што рабіць ім? Нешта трэба.

— Застанецца без кіно!
— Не, я сам хацеў даўно.
Лепш не купім ёй купальнік.
— Вось прыдумаў, выхавальнік!
Без цукерак!
— Ну, дарма.
— Лепш прыдумай!
— Лепш сама!

— Кожны дзень хай вучыць вершы!
— Сёння правяраеш першы,
бо ўсе нервы на мяжы!
— Дык скажы…
— Сам ёй скажы!
— Пяць гадзін на піяніне?
— Педагог!
— Педагагіня!
— Бачыў стол яе? Бардак!
— Штось не так?
— Ды ўсё не так!..

І спрачаюцца да рання
пра дзяцей і выхаванне.
Калатнеча — божа мой!
Трэба іх мірыць самой.

**Дзе варта быць**

**Святлана Алексіевіч прэзентуе «Час сэканд хэнд» на Мінскім кніжным кірмашы**

У суботу, 8 лютага, на Мінскім міжнародным кніжным кірмашы (вул. Купалы, 27) адбудзецца сустрэча з пісьменніцай Святланай Алексіевіч і прэзентацыя яе новай кнігі «Час сэканд хэнд».

Стэнд «Белкнігі», 12.00—14.00. Вядзе сустрэчу генеральны дырэктар выдавецтва «Время» Барыс Пастэрнак.

**Фестываль "Вершы на асфальце"**

13—16 лютага ў Мінску адбудзецца Трэці міжнародны паэтычны фестываль «Вершы на асфальце» памяці Міхася Стральцова. Арганізатары фестывалю — Саюз беларускіх пісьменнікаў, Беларускі ПЭН-цэнтр. Месцы правядзення: 13, 14, 16 лютага — Крэатыўная прастора «ЦЭХ» (пр-т. Незалежнасці, 58, корп. 6 (праход праз вул. П. Броўкі), левы пад'езд, другі паверх); 15 лютага — Канферэнц-зала Інстытута імя Гётэ ў Мінску (вул. Веры Харужай, 25/3, чацвёрты паверх).

Удзел бяруць Уладзімір Арлоў, Алесь Разанаў, Андрэй Хадановіч, Сяргей Пукст і мноства іншых творцаў з Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі.

**Бібліятэка**

# Вершавана-музычная псіхадэлія

Уладзь Лянкевіч «70% вады». «Кнігазбор», 2013. Серыя «Пункт адліку».

Паэт і рок-музыка Уладзь Лянкевіч выдаў дэбютную кнігу вершаў «70% вады». Кніга мае пазнаку «вершы з музыкай і без»: у зборнік трапілі ў тым ліку тыя тэксты, якія існуюць як песні Уладзевага гурту TonqiXod, які ўжо мае сваіх прыхільнікаў сярод айчынных меламанаў.



Вершы Уладзя, часам белыя, часам рыфмаваныя, часам нервовыя, а часам наадварот — псіхадэлічна-імпрэсіяністкія, прымушаюць прыгадаць пра «праклятых паэтаў»: ад Гіёма Апалінэра да Джыма Морысана. Лянкевічава «мы хадзілі шэптам, каб не спужаць апалага лісця» магло б стаць класікай кшталту морысанаўскага «крыку матылька», калі б выйшла ў іншы час, у іншай краіне (маюцца на ўвазе псіхадэлічныя 60-я ў ЗША).

Прачытаць з аднаго заходу «70% вады» пры ўсім жаданні не атрымаецца, дый Лянкевіч не з тых паэтаў, якіх трэба чытаць нагбом, — лепей перад чытаннем наведаць канцэрт і адчуць энергетыку, якая настроіць на правільны лад.

ЮУ



## БАСКЕТБОЛ

### «Цмокі» — «Котка»




**11 лютага на «Мінск-Арэне»** пройдзе гульня ў рамках Еўрачэленджу. Мінскія «Цмокі» прымуць фінскую «Котку». Пачатак а 19.

## КАНЦЭРТ

### «Даём рады»

**7 лютага ў мінскім клубе Re:Public (Прытыцкага, 62)** будуць узнагароджаныя лепшыя музыкі 2013 года. На другім фестывалі «Даём рады» сыграюць «Дай Дарогу!», Neuro Dubel, Nizkiz, Harotnica, Sciana і «Тлушч». Пачатак а 18. Білеты — ад 90 да 190 тысяч рублёў.

## ІМПРЭЗЫ

### Беларуская фатаграфія 90-х

**Напрыканцы мінулага года** ў серыі «Калекцыя пАРТызана» выйшаў альбом, прысвечаны арт-феномену 1990-х — «Менскай школе творчае фатаграфіі». Прэзентацыя альбома адбудзецца 7 лютага ў галерэі «Ў» (пр. Незалежнасці,37а).



## ВЫСТАВЫ

### Бог сялянскі, хрысціянскі. Бабіцкая ікона

**Выстава «Бог сялянскі, хрысціянскі. Бабіцкая ікона»**, што экспануецца ў Мастацкім музеі (Леніна, 20), — сумесны праект Веткаўскага музея стараабрадніцтва і Чачэрскага музея. На ёй дэманструецца ўнікальная з’ява нацыянальнай культуры — бабіцкі народны іканапіс. Менавіта ў вёсцы Бабічы Чачэрскага раёна жылі і тварылі першыя сяляне-іканапісцы, пра што згадваецца ў дакументах яшчэ ў канцы XIX ст. На выставе прадстаўлена 38 ікон з самымі разнастайнымі сюжэтамі.

### Парнат 84-11Б

**У Гістарычным музеі (Маркса, 12)** распачаў працу сумесны праект вельмі розных па стылі і жанры творцаў, якіх яднае агульная школа. Парнат — гэта слэнгавая назва знакамітай мастацкай школы імя Ахрэмчыка. У назве праекта лічбы і серыйныя параметры абазначаюць аддзяленне і год выпуску: 11 «Б», 1984. Менавіта выпускнікі гэтага класа — аўтары работ, прадстаўленых на выставе. Удзельнікі праекта запрашаюць на інтэрактыўную экспазіцыю, дзе кожнаму будзе і час, і месца.

### Скарбы Украіны

**Упершыню ў Беларусі экспануюцца ўнікальныя творы мастацтва** са срэбра з каштоўнымі камянямі, фарфору і фаянсу. «Скарбы Украіны» — гэта сумесны праект Гістарычнага музея Беларусі і Музея гісторыі Украіны (г.Кіеў). На выставе прадстаўлены творы ўкраінскіх ювеліраў XVI—XX стст., выкананыя ў розных агульнаеўрапейскіх стылях, з прыўнесенымі рысамі ўкраінскіх нацыянальных традыцый.





## ТЭАТРЫ

### 6 лютага

**Беларускай драматургіі** — Нямое каханне
**Купалаўскі** — Ліcтапад. Андэрсен
**Оперы і балета** — Травіята
**Юнага гледача** — Аднакласнікі

### 7 лютага

**Беларускай драматургіі** — Адамавы жарты
**Купалаўскі** — Лістапад. Андэрсен
**Оперы і балета** — Тамар, Шэхеразада
**Юнага гледача** — Мешчанін у шляхецтве

### 8 лютага

**Беларускай драматургіі** — Нязваны госць
**Купалаўскі** — Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл
**Лялек** — Сіняя птушка
**Оперы і балета** — Турандот
**Юнага гледача** — Сакрэт сапраўднага сяброўства

### 9 лютага

**Беларускай драматургіі** — Містар Розыгрыш
**Купалаўскі** — Сымон-музыка
**Лялек** — Вясёлы цырк
**Оперы і балета** — Анюта
**Юнага гледача** — Вясёлы Роджар

### 10 лютага

**Беларускай драматургіі** — Амбівалентнасць
**Оперы і балета** — Тоска

### 11 лютага

**Беларускай драматургіі** — Дажыць да прэм’еры
**Купалаўскі** — Ноч на Каляды

### 12 лютага

**Беларускай драматургіі** — Белы анёл з чорнымі крыламі
**Купалаўскі** — Ноч на Каляды
**Лялек** — Чароўныя падарункі
**Оперы і балета** — Вітаўт
**Юнага гледача** — Ліса і вінаград

## КІНО

### Белка і Стрэлка: прыгоды на Месяцы

Жанр : анімацыя , дзіцячы / сямейны , камедыя , прыгоды
**Рэжысёр:** Аляксандр Храмцоў
**Акцёры:** Нона Грышаева, Мар’яна Співак, Ілля Храмцоў, Сяргей Гармаш, Яўген Міронаў, Цімур Радрыгез, Раман Квашнін, Сяргей Юшкевіч.
Расія, 2013, 90 хв.

На Зямлі пачалі адбывацца дзіўныя і загадкавыя з’явы , якія нясуць пагрозу для планеты. Іх след вядзе ў космас, на цёмны бок Месяца. Раскрыць таямніцу стагоддзя даручылі атраду Казбека . Белка, Стрэлка і ўся каманда вясёлых і адважных герояў адпраўляюцца на Месяц, каб выканаць небяспечную місію. Прага прыгод, бліскучы гумар і высокі дух касмічнага братэрства падтрымаюць у хвіліну вялікай небяспекі і дапамогуць раскрыць усю праўду аб Месяцы і яго насельніках .

# Пра што яны думаюць?

Піша Уладзімір Падгол.



31 студзеня Аляксандр Лукашэнка правёў нараду аб пэрспэктывах развіцця арганізацый канцэрна «Беллеспапераправ».

Рэпартажы з нарады паказалі ўсе прэзідэнцкія СМІ. Але толькі тэлеканал СТВ паказаў унікальныя кадры з нарады. Астатнія тэлеканалы гэтыя кадры адцэнзуравалі. А ў выдаленым сюжэце змяшчаецца інфармацыя, якая ў адным сказе паказвае ўзровень кампетэнцыі топменеджараў у краіне.

**А.Лукашэнка** (звяртаючыся да кіраўніка канцэрна «Беллеспапераправ» Юрыя Назарава):

«Што галоўнае вы ўбачылі ў сваім міністэрстве цяпер? Вы спалохаліся?»

**Юрый Назараў:** «Трэба абаротныя сродкі, якіх катастрафічна бракуе на прадпрыемствах. Няма за што купіць сыравіну...»

**А.Лукашэнка:** «Што за праблема?»

Старшыня праўлення Нацбанка Н.Ермакова: «Калі інвестыцыйныя праекты пралічвалі па мадэрнізацыі, пра абаротныя ... забыліся і палічылі, што яны самі сабой з'явяцца. А гэта таксама велізарныя грошы. Тут быў бы найлепшы варыянт, каб уласнік — гэта значыць, урад — даваў пазыкі пад 1—3%. Гэта вырашальнае пытанне».

На нарадзе гаварылася, што пад «абаротку» на 9 прадпрыемстваў трэба 57 мільёнаў еўра. Дык якая ж кампетэнцыя гэтых спецыялістаў, калі яны думалі-думалі, а пра 57 мільёнаў, забыліся, мяркуйце самі.

## КДБ у Гродне наводзіць парадак у дзіцячых садках

Настаўнікі і дактары ў працоўны час падзараблялі мяшэчнікамі на мяжы. Нестыкоўкі замежных паездак з табелямі ўліку працоўнага часу выявіла УКДБ па Гродзенскай вобласці. «За шэсць апошніх гадоў тры загадчыкі і тры намеснікі загадчыцы гродзенскімі дзіцячымі садамі агулам больш за дзвесце разоў перасеклі мяжу. Ва ўсіх двухстах выпадках яны павінны былі знаходзіцца на працы і выконваць свае службовыя абавязкі», — паведамляе газета «Гродненская правда».

Усіх парушальнікаў пакаралі рублём. Службовыя асобы пагадзіліся з прэтэнзіямі і добраахвотна пакрылі ў бюджэце сродкі, неабгрунтавана выплачаныя ім у якасці заробку і іншых выплат. Дзве загадчыцы дзіцячымі садамі звольніліся па ўласным жаданні.

АГ

## Кіроўца з Моталя паставіў рэкорд па ўтрыманні алкаголю ў крыві

Своеасаблівы рэкорд па ўтрыманні алкаголю ў крыві ўсталяваў 34-гадовы мужчына з вёскі Моталь Іванаўскага раёна, паведаміла начальнік аддзялення агітацыі і прапаганды ДАІ УУС Брэсцкага аблвыканкама Наталля Сахарчук.

Аўтамабіль «ВАЗ—2103» 3 лютага ў 11:00 спынілі супрацоўнікі асобнага ўзвода спецпрызначэння ДПС «Буг». Утрыманне алкаголю ў крыві кіроўцы склала 4,4 праміле.

Для медыцынскага агляду кіроўцы давялося выкарыстаць два прыборы, бо паказанням першага супрацоўнікі міліцыі спачатку не паверылі, вырашыўшы, што той зламаўся.

Абодва апараты паказалі, што ў выдыханым кіроўцам паветры ўтрымліваецца 4,4 праміле пароў алкаголю. З тлумачэнняў вынікала, што піў ён усю ноч. Апошнюю пляшку гарэлкі выпіў а 9 раніцы і пасля гэтага сеў за руль.

Дарэчы, медыкі сцвярджаюць, што пры ўтрыманні алкаголю ў крыві 3,6 праміле ў звычайнага чалавека наступае кома.

Па словах Наталлі Сахарчук, у 2013 годзе антырэкардсменам па кіраванні аўтамабілем у нецвярозым стане стаў вадзіцель, у якога было выяўлена 3,2 праміле алкаголю ў крыві. Пры гэтым у Беларусі дапушчальны ўзровень утрымання алкаголю ў крыві кіроўцаў — 0,3 праміле.

У дачыненні да вадзіцеля складзены адміністрацыйны пратакол па ч.1 арт.18.16 КоАП. Яму пагражае буйны грашовы штраф і пазбаўленне права кіравання аўтамабілем на 3 гады.

БелТА



## У Слоніме міліцыя спыніла масавае катанне з горкі

Тры чалавекі затрыманыя.

31 студзеня карэспандэнт «Газеты Слонімскай» наведала Slonim Snow party, на якую запрашалі ўсіх аматараў зімовага спорту. Катанні меліся адбыцца на гары ў мікраёне Энка.

На месцы масавасці журналіст не заўважыла. Каля 13.00 з гары каталіся тры маладыя чалавекі, якіх супрацоўнікі міліцыі павезлі ў аддзел для высвятлення асоб.

Таксама міліцыянты забралі ў аддзел некалькіх хлопцаў, якія праходзілі каля горкі.

Усё, што адбывалася, супрацоўнікі праваахоўных органаў здымалі на відэакамеру. Па іх словах, яны спрабавалі спыніць магчымае правядзенне незарэгістраванага масавага мерапрыемства.

## Праваслаўны епіскап Гурый: У Амерыцы ставяць помнік сатане

На думку епіскапа Навагрудскага і Лідскага Гурыя, выкрыццё гомасэксуальнага лобі ў Рускай праваслаўнай царкве дыяканам Кураевым «заснавана на галаслоўных і ананімных лістах».

« Не здзіўлюся, калі пэўныя сілы такім чынам спрабуюць прасунуць наперад у славянскіх краінах хоць бы на крок легалізацыю аднаполых шлюбаў», — кажа епіскап Гурый у інтэрв'ю на гэтую тэму, апублікаваным на сайце Навагрудскай епархіі.

Уладыка карыстаецца нагодай інтэрв'ю, каб абрынуцца на Захад і Еўропу. «У Амерыцы ... збіраюцца паставіць помнік сатане . Вы ведаеце пра гэта, Уладыка?» —пытаецца ў яго аўтар інтэрв'ю, протаіерэй Вадзім Кузьміч . «Так, я чытаў аб тым, што амерыканская царква сатаны таксама ў гэтыя святочныя



дні, акурат у святкі, прадставіла праект помніка сваіму ўладару. І усталяваць яго памкнулася не дзе-небудзь , а побач з будынкам Капітолія, у якім размешчаны ўрад і Вярхоўны суд штата Аклахома, —адказвае епіскап. —Ідзе духоўны збой —і пачынаюцца нябачаныя раней бедствы і катастрофы , у тым ліку, дарэчы, і 50-градусныя маразы ў Амерыцы, што скавалі нават Ніягарскі вадаспад» .

На думку Гурыя, перажыванні Кураева пра маральную чысціню Рускай праваслаўнай царквы надуманыя, а вось Захад сапраўды заграз у граху: «З'явілася новая інфармацыйная зброя, каб разбурыць сусветную мараль. А рытуальныя словы аб свабодзе, правах чалавека, дэмакратыі —толькі зручная шырма», — кажа епіскап.

«У чужым воку мы бачым парушынку, а ў сваім не заўважаем і бервяна», — так пракаментаваў гэтае інтэрв'ю ў Фэйсбуку адзін з праваслаўных блогераў.

Эксперты лічаць епіскапа Гурыя адным з лідараў-фундаменталістаў у беларускім праваслаўі. Скандальны розгалас набылі спробы перабудаваць старадаўнюю царкву ў Навагрудку, дадаўшы на яе цыбуліну ў расійскім стылі.

Сяргей Гезгала

### Цытата

## «Народ стаміўся ад складанага жыцця, кіраўніцтва краіны»

Экс-футбаліст мінскага «Дынама», беларус Аляксандр Данілаў жыве ў Кіеве, жанаты з украінкай, хоча там застацца па сканчэнні кар'еры.

— Акцыі пратэсту працягваюцца ўжо больш за два месяцы. Украіна стамілася ад гэтага?

— Народ стаміўся ад складанага жыцця, кіраўніцтва краіны. Жыхары Кіева не разважаюць: стаміліся яны ці не. Украінцы змагаюцца за адну агульную ідэю. Яны хочуць, каб урад іх пачуў, каб у краіне нарэшце нешта змянілася. Я ні разу не чуў, каб людзі гаварылі, што ім надакучыла стаяць на Майдане. Зараз украінскі народ згуртаваўся. Яны дапамагаюць адзін аднаму і спрабуюць змяніць сваё жыццё да лепшага.

By.tribuna.com

## У Саўт-Рыверы ушанавалі памяць Жызнеўскага

У амерыканскім горадзе Саўт-Рыверы ў беларускай царкве імя св. Еўфрасінні Полацкай у нядзелю, 2 лютага, была адслужана паніхіда ў памяць Міхаіла Жызнеўскага — 25-гадовага беларуса з Гомеля, які загінуў у Кіеве 22 студзеня ў часе абароны вуліцы Грушэўскага ад атакі спецназа.

Развітанне з Міхаілам у Кіеве было зладжана 26 студзеня, пахаваны ён пад Гомелем 28 студзеня.

Янка Запруднік, Нью-Джэрсі

## Француза прысудзілі да года турмы за здзекі з кацяняці



Малады чалавек з Марсэля ў сваім Фэйсбуку размясціў відэа таго, як ён шпурляе 5-месячнае кацяня ў паветра, а потым у сцяну будынка. Запіс выклікаў абурэнне сярод інтэрнэт-карыстальнікаў, яны вылічылі зламысніка і звярнуліся да праваахоўнікаў.

Падчас судовага слухання бок абвінавачвання назваў яго дзеянні садысцкімі і запатрабаваў прысудзіць маладога чалавека да году турмы. Суд Марсэля палічыў гэта патрабаванне абгрунтаваным.

Дадзеная справа выклікала шырокі грамадскі рэзананс: падчас слуханняў некалькі сотняў чалавек арганізавалі дэманстрацыю каля будынка суда.

МБ



БЕЛАПАН

У Мінску на закрытай прэм’еры экранізацыі аповесці Мікалая Гогаля «Вій» (старонка 11) частавалі салам і насілі дзяўчыну ў труне.



Чалавек, які перажыў Халакост, заходзіць унутр былога канцлагера напярэдадні цырымоніі ў гонар 69-й гадавіны вызвалення Асвенціма.



Сурок Філ з горада Панксатоні ў штаце Пенсільванія прадказаў доўгую зіму ў ЗША.



Другая ракетка свету беларуска Вікторыя Азаранка абзавялася хатняй жывёлінай. На старонцы ў Instagram яна паказала свайго сабаку па імені Дзюк.



## Анекдоты і жарты

* * *

Алімпійскі агонь у Сочы запаліць Аліна Кабаева. А што ты зрабіў для сваёй дзяўчыны?

* * *

Школьнік звяртаецца да настаўніцы:

— Ганна Іванаўна, а давайце класную дошку павесім на столь, а дзверы з вокнамі месцамі памяняем!

— Ды дастаў ты ўжо, Саша, са сваёй мадэрнізацыяй!

* * *

Замест расійскага тэлеканала «Дождь», вяшчанне якога спыняюць, пачне трансляваца дзяржаўны тэлеканал «Вождь».

* * *

Удзельнікі масоўкі фільма «Авель» папрасілі выдаць ім транспаранты «Что-то не так».

* * *

Першае правіла бээрэсэмаўца: нікому не кажы, што ты бээрэсэмавец.

* * *

Гадоў праз 30 у падручніках па гісторыі Беларусі будзе раздзел «Аднаўленне прамысловасці і сельскай гаспадаркі пасля правядзення Чэмпіяната свету па хакеі 2014 г.».

* * *

На антыкарупцыйным паседжанні адбылося самазагаранне васямнаццаці шапак.

## «НН» сто гадоў з вамі

**У Полацку** мясцовыя педагогі дадумаліся да вялікай рэформы: яны да справаў педагогікі прыцягнулі... гарадавых. З гэтай мэты кожнай гімназістцы выдалі асобныя кніжкі, у каторыя кожны гарадавік можа запісаць, як вядзе сябе вучаніца на вуліцы. Во, што значыць увекавечыць свае імёны. Але ці не сорам такі, недзе ў глыбіні душы, перад самім сабой, полацкім педагогам?

**«НН». №5. 1914.**

**10 гадоў з народам.** У кожнага свае песняры. Незалежная Рэспубліка Мроя (NRM) паўстала з першымі сімптомамі back in the USSR. З іх песнямі перажываліся гістарычныя пераломы. Віхурнага 96-га не ўявіць без «Партызанскай», змрочнага 99-га — без «Паветранага шара». Іх музыка была антыподам навакольнаму маразму, незалежна ад ідэалагічнай яго прыналежнасці.

**«НН». №5. 2004.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур’ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**




8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 04.02.2014.
Замова №607.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614



9 771819 161008 14005